# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 06 (3326) Год LXV Беласток, 9 лютага 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Наталла Русецкая →3


Памяць пра Кастуся →5

**«Калі народ траціць сваю памяць, ідзе ў разброд і няма ў яго будучыні. Народ без памяці гэта не народ. Нам хочуць накінуць іншую памяць, чым тую, якую ведаем. Мы павінны знаёміць нашых жыхароў з нашай памяццю, якая будзе вырашаць аб тым, кім мы будзем у будучыні»**, — сказаў у час сустрэчы 26 студзеня ў святліцы ў Рыгораўцах Арлянскай гміны прафесар Алег Латышонак, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства. Вясковая рада і Гурток вясковых гаспадынь з Рыгораўцаў, Беларускае гістарычнае таварыства, Фонд Kamunikat.org і адміністрацыя профілю Рыгораўцы на Фейсбуку (FB) арганізавалі спатканне напярэдадні 74-й гадавіны пацыфікацыі і ўшанавалі памяць мірных ахвяр атрада Нацыянальнага вайсковага згуртавання, якім камандаваў капітан Рамуальд Райс «Буры».



# Пацыфікацыі нашых вёсак

У Жаночым манаскім доме святой велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах раніцай у нядзелю, 26 студзеня, былі адслужаны літургія і паніхіда па забітых і спаленых жыхарах гэтай вёскі атрадам «Бурага». У мінулым годзе Сабор епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы забітых каля Пухалаў-Старых атрадам «Бурага» вазакоў, у асноўным праваслаўных беларусаў з нашых вёсак, далучыў да ліку святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі. Можна ўжо афіцыйна маліцца да гэтых святых і прасіць у іх хадайніцтва перад Богам у розных жыццёвых выпрабаваннях, няўдачах і прасіць дапамогі ў хваробе. Мясцовыя жыхары мяркуюць, што забітыя атрадам «Бурага» жыхары Залешан і іншых нашых сёл таксама дапамагаюць ім у хадайніцтве перад Богам і ў будучыні таксама могуць быць прылічаны да ліку мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі.

У святліцу ў Рыгораўцах прыбыло многа людзей, каб больш даведацца пра трагедыю 74-гадовай даўнасці і ўшанаваць памяць мірных ахвяр атрада «Бурага». Сустрэчу адкрыў гмінны радны з Рыгораўцаў Андрэй Жаброўскі. Разам з заснавальнікам профілю Рыгораўцы на FB Яўгенам Семенюком, які пасля вёў сустрэчу, прывіталі яны войта Арлянскай гміны Лявона Паўлючука, гмінных радных, настаяцеля Міхайлаўскага прыхода ў Вульцы-Выганоўскай протаіерэя Лявона Саевіча і гасцей — старшыню Беларускага гістарычнага таварыства прафесара Алега Латышонка, героя дакументальнага фільма «Сярожа», ураджэнца Залешан Сяргея Нічыпарука і рэжысёра фільма Юрыя Каліну.

«Сімвалічнае значэнне для гісторыі маюць здарэнні ў вёсках Залешаны і Вулька-Выганоўская, якія суседнічаюць з Рыгораўцамі. Таму напярэдадні гадавіны мы рашыліся наладзіць гістарычную сустрэчу, пазбаўленую рэваншызму і дэмагагічна-палітычных інтэрпрэтацый, якія многа ў апошнім часе. Мы хочам наблізіць зацікаўленым асобам гістарычны фон і храналогію здарэнняў гэтага перыяду. Спатканне ёсць ушанаваннем памяці і хрысціянскім успамінам аб ахвярах гэтага трагічнага перыяду», — напісаў Яўген Семянюк у запрашэнні на сустрэчу на профілі Рыгораўцы на FB.

У час спаткання Яўген Семянюк зачытаў імёны і прозвішчы ахвяр атрада «Бурага», загінуўшых 74 гады таму і звярнуў увагу, што рэйд атрада «Бурага» запалохаў частку мясцовага насельніцтва, якое пасля больш масава стала выязджаць у Савецкі Саюз у рамках пасляваеннай рэпатрыяцыі. Затым з дакладам пра падзеі на зломе студзеня і лютага 1946 года выступіў прафесар Універсітэта ў Беластоку Алег Латышонак, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства.

Першая частка даклада адбылася каля святліцы ля стэндаў выставы «Наша памяць».

Была яна ўпершыню запрэзентавана год назад да 73-й гадавіны трагічных здарэнняў. З гэтага часу паказвалася яна многа разоў у многіх месцах. Экспазіцыю складаюць фатаграфіі і матэрыялы з пездак членаў Беларускага гістарычнага таварыства і Фонду Kamunikat.org смертаносным шляхам атрада «Бурага» ў пачатку 1946 года.

— «Буры» спачатку хацеў заняць Гайнаўку, паказаць сваю сілу і пахваліцца вялікім поспехам. Аднак перад атакай на Гайнаўку не правёў адпаведнай разведкі і не ведаў, што каля станцыі стаяць вагоны з савецкімі салдатамі, якія вярталіся ў Савецкі Саюз. Салдаты выперлі атрад «Бурага» з Гайнаўкі, але далей яго не праследавалі. Параза ў Гайнаўцы раззлавала «Бурага». У Лазіцах загадаў ён вазакам, якіх склікала туды хутчэй за ўсё падпольная агентура, везці яго падначаленых на падводах. Такім чынам адправіўся ён на крывавы рэйд па нашых вёсках, — сказаў прафесар Алег Латышонак.

Спасылаючыся на паасобныя здымкі экспазіцыі «Наша памяць», дакладчык расказаў пра трагічныя здарэнні ў Залешанах і Вульцы-Выганоўскай на зломе студзеня і лютага 1946 года, калі падчас пацыфікацыі вёсак загінула больш за 50 чалавек, у асноўным праваслаўных беларусаў. Распавёў таксама пра забойства вазакоў жаўнерамі атрада «Бурага» каля Пухалаў- Старых, якія і былі далучаны да ліку святых мучанікаў. Рамуальд Райс пасля вайны быў прыгавораны да кары смерці і прысуд быў выкананы. У 1995 годзе суд Варшаўскай вайсковай акругі адмяніў прыгавор. Пасля расследавання Інстытута нацыянальнай памяці атрад «Бурага» быў прызнаны вінаватым у пацыфікацыі вёсак Залешаны, Вулька-Выганоўская, Шпакі, Зані і Канцавізна ў 1946 годзе і смерці каля 50 жыхароў гэтых вёсак і 30 вазакоў.

— Трэба нам ведаць сваю гісторыю, як было з намі ў мінулым. Але не трэба нам старацца помсціць за крыўды. З мінулага трэба рабіць высновы на будучыню, — заявіў Яўген Семянюк.

Пасля даклада прафесара Алега Латышонка быў запрэзентаваны дакументальны фільм тэлеканала Белсат «Сярожа». Рэжысёр шматкратна ўзнагароджанай стужкі Юры Каліна не скрываў радасці, што шматлікая аўдыторыя з зацікаўленнем успрыняла яго фільм пра выхадца з Залешан Сяргея Нічыпарука. Яго дачка, зараз манахіня Кацярына, кіруе Жаночым манаскім домам св. Кацярыны ў Залешанах. У фільме важным момантам былі ўспаміны аб пацыфікацыі атрадам «Бурага» Залешан, у час якой былі забіты і згарэлі 16 вяскоўцаў, у тым ліку дзеткі і жанчыны. Пасля дэманстрацыі фільма адбылася размова з яго героем Сяргеем Нічыпаруком, якога сямейнікі саставілі найбольшую колькасць ахвяр атрада «Бурага».

— У час сённяшняй пропаведзі ў царкве ў Залешанах, якая будавалася няцэлы год, святар сказаў, што трагедыя можа даць у будучыні радасць. У нашых сэрцах раней не было нянавісці і думкі помсты, але мы часта задумваліся, чаму гэта здарылася. Я толькі цяпер зразумеў, што здарылася 74 гады таму. Тады Бог даваў нам сваіх святых мучанікаў. Мы доўга маліліся за іх, а цяпер можа будзем маліцца да іх, нявінна забітых. Я з сынам «Бурага» размаўляў па тэлефоне. Ён стараецца апраўдаць паводзіны бацькі, каб быў ён героем. Аднак я веру, што ён яшчэ даспее і зразумее, што зрабіў яго бацька. Сапраўдным героем у атрадзе «Бурага» быў чалавек, які пільнаваў падпаленую хату ў Залешанах, з сагнанымі туды людзьмі. Калі ён пусціў людзей уцякаць і страляў уверх, рызыкаваў сваім жыццём, — сказаў Сяргей Нічыпарук і паінфармаваў, што ў Залешанах ужо закладзены фундаменты пад мураваную царкву ў гонар св. Кацярыны і мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі. — Нішто не адбываецца выпадкова і яшчэ дваццаць гадоў назад ніхто не падумаў, што будуць будавацца цэрквы ў Залешанах. Зараз моляцца там чатыры маладыя дзяўчыны, якія прысвяцілі сваё жыццё службе Богу і адчуваецца там дапамога нявінна забітых. У Залешанах аб'явілася ікона Божай Маці, якая распасцірала рукі і ахоўвала, стоячы ў акружэнні сямі анёлаў. На падставе яе была напісана Залешанская ікона Божай Маці, на якой знізу напісаны дом і трое малых дзетак у агні. Знаходзіцца гэтая ікона ў драўлянай царкве і многа людзей моляцца перад ёй.

Пасля выступлення Сяргея Нічыпарука ахвотныя аказаць дапамогу ініцыятыве «Наша памяць» перадалі грашовыя ахвяраванні.

— Калі глядзелі мы здымкі на выставе, сэрца абліваласся крывёю. Даклад прафесара з Беластока і фільм пра Нічыпарука былі цікавымі. Мы рады, што прыйшлі сюды на сустрэчу, — сказалі старэйшыя жыхары Рыгораўцаў.

У наступным нумары «Нівы» напішам пра чарговыя ініцыятывы ўшаноўвання памяці ахвяр атрада «Бурага».

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# У чаканні чаго?

Неспакойна ў свеце ад самага пачатку года. То Аўстралія ў агні і не спыніць тых страшных пажараў, то Афрыку накрываюць хмары саранчы, то ў Кітаі — буйнейшай краіне Азіі імкліва распаўсюджваецца смяротны каранавірус. Нібы ўсе прадвеснікі біблейскага апакаліпсісу насунуліся на планету Зямля.

Беларусь пакуль не гарыць, не затапляе і надзвычай лагодная мяккая зіма не стварае ніякіх прыродных праблем, а тым больш катаклізмаў. А трывога, тым не менш, усё нарастае. Прычына нязменная і ўся тая ж, што і сто, дзвесце, пяцьсот гадоў таму — агрэсія з боку Масквы. Гэтая чорная навала з усходу нібыта адвечны праклён для нашай зямлі. Гэтая пагроза як перманентная і бясконцая з'ява. А тым больш зважаючы на еўрапейскую канцэпцыю рэал-палітык, дзе слабейшага моўчкі дадуць растаптаць і нават сцерці з мапы кантынента.

Тое, што здарылася на мінулым тыдні ў Страсбургу, іначай як чарговай палітычнай капітуляцыяй Еўрасаюза перад Масквой і назваць нельга. Можна апісаць гэта і адным ёмкім беларуска-польска-ўкраінскім словам, дадаўшы клічны знак — „Ганьба!". А адбылося наступнае: сесія Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы аднавіла паўнамоцтвы Расеі ў поўным аб'ёме. Паўнамоцтвы гэтыя аднаўлены без аніякіх умоў, заўваг і выпрабавальных тэрмінаў. Больш таго, прыняты такія папраўкі, якія практычна выключаюць увядзенне еўрапейскіх санкцый супраць Расеі. І нават яшчэ больш. Вылучэнец той самай Масквы Пётр Талстой абраны намеснікам старшыні Парламенцкай Асамблеі. Трэба сказаць, што Расею раней не выключылі з гэтай ПАРЕ, хоць за акупацыю Крыма і ваенную агрэсію на Данбасе павінны былі гэта зрабіць. Паўнамоцтвы Расеі тады проста былі прыпынены. Масква перастала плаціць складчыны і еўрабюракраты вельмі моцна захваляваліся. Зараз жа дзяржава-агрэсар непрыхаваным шантажом і, думаецца, іншымі метадамі, аднавіла свае пазіцыі. Дзяржавы „другога эшалону" — Грузія, краіны Балтыі, Польшча, натуральна Украіна канешне выступалі супраць такога таптання закону і маралі. Але ў палітыцы Еўрасаюза не месца прынцыповасці і тым больш маралі. У ёй асноўныя кірункі вызначаюць моцныя Старога свету — найперш Германія ды Францыя. А ў іх з Пуціным калі не поўная любоў, то поўнае паразуменне ў геапалітычных і эканамічных інтарэсах. Трэба было бачыць як на нядаўнім саміце ў Берліне пры заключным фатаграфаванні, з якім паклонам прэзідэнт Францыі Макрон кінуўся да Пуціна, ледзь не цалаваў таму рукі.

Так што фактычна Рада Еўропы заплюшчвае вочы на ўсе міжнародныя злачынствы, здзейсненыя крамлёўскім рэжымам, а значыць выдае карт-бланш на далейшую расейскую агрэсію. З многіх адкрытых крыніц добра вядома, што Расея сканцэнтравала на мяжы з Украінай вялізныя вайсковыя фармаванні, а значыць прывід новай, куды больш страшнай вайны, набывае рэальныя абрысы. Многія разумеюць, што Пуцін апантаны ідэяй рэваншу за распад, а ён лічыць за развал, Савецкага Саюза. І што ён са сваім бліжэйшым атачэннем не спыніцца ні перад чым. Пад крамлёўскім прыцэлам найперш Украіна і Беларусь, а далей краіны Балтыі і Усходняй Еўропы.

На што спадзявацца беларусам у гэтай амаль фатальнай сітуацыі, акрамя Госпада? Дакументальна гарантамі незалежнасці Рэспублікі Беларусь паводле будапешцкага мемарандуму, як вядома, акрамя Расеі (вось гэта гарант дык гарант!), з'яўляюцца Вялікабрытанія і ЗША. Чаго вартае цяперашняе міжнароднае права, паказалі крымскія падзеі 2014 года. І ўсё ж нейкія спадзевы на прынцыповую палітычную пазіцыю Брытаніі і Амерыкі ёсць. Вялікабрытанія зараз выйшла з Еўрасаюза, з чым яе можна павіншаваць. А яе прэм'ер-міністр Борыс Джонсан, здаецца, здольны на нейкія прынцыповыя пазіцыі. Прынамсі апошняя яго размова ў тым жа Берліне з Пуціным дазваляе на гэта спадзявацца. ЗША ад нас далёка, сёлета ў іх прэзідэнцкія выбары і ці захаваюць рэспубліканцы пазіцыі, невядома. Але ў кожным разе візіт дзяржсакратара Майка Пампеа ў Кіеў і Мінск — добры знак. Той, хто топіцца, і за трэску хапаецца. Так і ў нас. Пакуль дыхаем — на нешта лепшае спадзяемся.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Сіла слабасці

Адзіная сіла, якая мяне ўтрымлівае на Зямлі, гэта... гравітацыя. У адваротным выпадку я адляцеў бы даўно, таму што з дзяцінства быў схільны гайдацца ў аблоках. Але я аддаю перавагу трымаць ногі на зямлі. На сваё жыццё трэба сумленна зарабіць. Іншая справа, як працуеце. Злодзей таксама робіць нейкую працу... крадзе. Для мяне ідэальным варыянтам зарабляння на жыццё — разгойдваючыся ў аблоках. Мо пісаўшы кнігі. Я прызнаю, што гэта прывабная ідэя, але з рызыкай зваліцца са значнай вышыні. Са мной здаралася некалькі разоў, ой, як балюча! З-за гравітацыі калыханне ў аблоках заўсёды заканчваецца вялікім «бум!». І ў выніку падазронай суператай у разліках костак.

Той, хто быў кладаўшчыком, ведае, што лягчэй патлумачыць страту, чым наддатак. У першым выпадку яго абвінавацяць у максімальнай недарэчнасці, у другім, на жаль, наддатак будзе сведчыць аб махлярстве. Найначай з недахопам у розуме. Яго хранічная адсутнасць у кагосьці выклікае спачуванне, а не гнеў. У канчатковым рахунку, даруецца нават галапуючае глупства. І больш за тое, дазволена прыжывацца яму там, дзе яно нанесла значныя страты. Можа, таму неўдалоты пры ўладзе. Урэшце, міласэрнасць — гэта аснова хрысціянскага духу, якім прасякнута польскае грамадства. Шкада, што гэта навыварат. Хто ведае, ці не таму, што міласэрнасць пакінулі ў руках неўдалот, а яны памнажаюцца ў геаметрычным прагрэсе. Ніхто іншы, толькі яны давілі баявы патэнцыял польскай арміі да ўзроўню інфантыльнай эфектыўнасці разведкі скаўтаў. І што добрага ў ахове здароўя? Нічога нават крыху аптымістычнага. Як і ў выпадку сельскай і лясной гаспадаркі, аховы прыроды альбо эканомікі дзяржавы. Пра тых, хто грабецца ў польскай судовай сістэме, толькі згадваю, бо адразу ж заломваю рукі. Я думаю, што я не адзін. Не трэба быць мудрацом, каб сказаць, што вяршэнства закону ў нашай краіне ляжыць і квічыць. Вядома, не з-за суддзяў, якія спрабуюць абараніць яго з усіх сіл. Іх масавы адстрэл, параўнальны з апакаліптычнай ліквідацыяй дзікоў, з'яўляецца адзінай ідэяй, якая прайграла ў шырокай эпідэміі сацыяльнага пратэсту. Шкада, што гэтая эпідэмія хутчэй з'яўляецца вынікам галопу інфляцыі, чым моцнага ступання па зямлі. Невядома чаму, аднак, грамадству лягчэй дараваць неўдалотам, чым тым, хто, паказваючы суператы розуму, мае паводле яго натуральную схільнасць да махлярства. Тыя, да таго ж, памятаючы такія схематычныя забабоны, да ўлады не спяшаюцца. Ну, хіба што яны да касцей цынічныя. Як толькі адрозніць няўдачніка ад цыніка?

Але я пачаў з гравітацыі, і гэтую тэму развіну. Дзякуючы ёй мы ведаем, хаця і не вельмі добра разумеем чаму, дзе верх, а дзе дно, дзе неба, дзе зямля. У той жа час самая вялікая праблема — вызначыць, ці з'яўляецца кірунак «уверх» сінонімам пайсці ў неба. Для многіх абазначае гэта адно і тое ж. І ўсё ж усе сумневы з гэтай нагоды вырашаюцца гравітацыяй — звязанай з узаемным і безумоўным прыцягненнем мас — адной з асноўных фізічных сіл, якой належыцца поўная павага. Тым не менш, гэта сіла, якая распаўсюджваецца па ўсім вядомым і невядомым космасе праз узаемадзеянне масы з масай, агульнай масай усіх людзей да масы Зямлі, але таксама Зямлі для кожнага асобнага чалавека і, нарэшце, масы ўсіх месяцаў і сонцаў ды галактык, якія толькі дзякуючы іх узаемнаму прыцягненню набіраюць круцільны імпульс — які ж пажаданы ў выпадку Зямлі і Сонца, калі мы, стаміўшыся ад зімы, чакаем вясны, — гэта самая слабая з фізічных сіл. Наколькі магутнейшая за яе іншая сіла — электрамагнітная — як дэманструе просты эксперымент. Проста павесьце некалькі сантыметраў над раскіданымі апілкамі жалеза на зямлі прости магніт або электрамагніт. Практычна адразу ўсе яны падскочаць да яго, ігнаруючы прыцягальную сілу Зямлі. У рэшце рэшт, гэта развагі не пра фізіку. Яны — пра нашу краіну! Я згадваў раней пра павагу да асноўных фізічных сіл. Для электрамагнетызму, які супраць зямнога прыцягнення ўзнімае жалезныя апілкі. І чым лягчэй ён іх узнімае, тым большы мае лакальны ўплыў. Гэта яскрава паказана на прыкладзе Польшчы. Значная частка яе грамадзян жыве ў адпаведнасці з законамі ўсеагульнай гравітацыі, на дзіва ахвотна паддаецца электрамагнітнай сіле цяперашняй улады Яны не ступаюць па зямлі, літаральна прыкleіліся да ўлады і левітуюць супраць распаўсюджанай і дзеючай фізіцы.Толькі што, калі мясцовая сіла ўлады аслабее? Паляцяць уніз.

❖ Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Маладосць на Вадохрышча

Ужо люты на носе, а на маім пісьмовым стале і ў галаве — разлік мінулагодніх і студзеньскіх спраў. Адным словам, штогадовая ўзбуджанасць нервовай сістэмы па прычыне сакраментальнага пытання: як нам выжываць у свеце дэзынтэграцыі і як выбудоўваць у тым нашу беларускую рэчаіснасць, не ўзгадваючы пра далейшую будучыню. У натоўпе супярэчліва-экзістэнцыяльных думак з'яўляюцца аднак успаміны і хвіліны, якія рассыпаюцца яснай зоркай на цёмным небе. Тыдзень назад пісаў я пра Вадохрышча і яго духоўную сілу ў маленькай пушчанскай вёсцы. Надзвычайным завяршэннем нядзельнага, першага дня Трох каралёў быў удзел у школьнай стадзёнцы ў маім родным, гайнаўскім беларускім ліцэі. З хранікёрскага пункту гледжання перадаю зараз словы змешчаныя на сайце школы: «19 студзеня 2020 года а 18 гадзіне, у прыгожа аздобленай гімнастычнай зале, пачалася адна з найважнейшых у жыцці кожнага ліцэіста ўрачыстасцей, якой з'яўляецца баль, званы стадзёнкай. Сабраліся на ёй вучні матуральных класаў разам са сваімі партнёрамі, настаўнікі, бацькі ды запрошаныя госці. Усіх сабраных, ад імя бацькоў вучняў матуральных класаў, прывітала спадарыня Агнешка Менюк. Баль пачаўся традыцыйным, урачыстым паланэзам, у час якога вучні паказаліся ў сваіх цудоўных уборах. Традыцыйна, не адбылося таксама без беларускай народнай лявоніхі. Затым, вядучыя вучні — Магдаліна Аніскевіч і Міхал Бачынскі віталі ганаровых гасцей ды прасілі іх узяць голас, сярод якіх знайшліся: спадар Уладзімір Чушаў — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча, спадарыня Данута Роля — сакратар Павятовага стараства ў Гайнаўцы, спадар Яўген Вапа — галоўны рэдактар тыднёвіка «Ніва», спадарыня Ева Кечынска-Мароз — старшыня Бацькоўскага камітэта пры Белліцэі, спадар Ігар Лукашук — дырэктар школы. Усе яны жадалі моладзі ўдалай забавы ды поспехаў на матуральным экзамене, які няўхільна набліжаецца. У выступленнях гаварылася таксама пра прыемнасці ды адказнасць, якія нясе ў сабе дарослае жыццё. Голас узялі таксама прадстаўнікі матурыстаў, якія падзякавалі бацькам за падрыхтоўку ўрачыстасці, а настаўнікам за труд, пакладзены ў іх адукацыю і выхаванне. Госці і настаўнікі былі абдараваны кветкамі. Пасля афіцыйнай часткі прыйшоў час на гульню да самай раніцы». Думаю, што гульня для ўсіх была ўдалай. Для мяне напэўна поўным дрыжыкаў і эмоцый быў сам удзел у цырымоніі адкрыцця гэтага непаўторнага балю маладосці і весялосці. Інакш быць і не магло, калі ўсплылі і свае ўспаміны з гэтага перыяду жыцця. Як не круці, але падзея гэта ўжо гістарычная, бо мела месца ў 1984 годзе, значыць 36 гадоў таму назад. Ейную атмасферу, твары сяброў, сяброваk і настаўнікаў магу дадаткова прыгадаць не толькі дзякуючы сваёй, ужо непаўнацэннай памяці, але менавіта дзякуючы... «Ніве». Тады на нашым балі ў Гайнаўскім доме культуры з'явіўся нііўскі журналіст, які згодна патрабаванням рэдакцыі ўсё апісаў і прыгожа сфоткаў. Архіўны запіс з'яўляецца затым сведкам майго часу, што выклікае заўсёды сентыментальнае падарожжа ў мінулае. Угледаючыся на прыгожыя сукні будучых матурыстак, якія проста здаваліся быць створанымі толькі для іх, падумаў я пра адрозненні са сваёй стадзёнкай. Дзяўчаты былі ўсе ў белых блузках і чорных або сініх спадніцах, здаецца, што ўсе за калена. Але прыгажосць маладосці і тут была таксама вышэй за ўніфармізм тагачаснай эпохі. А можа таксама набрынялыя бутоны дзявочай красы, атуленыя белым колерам нявіннасці, прадказвалі наканаваную перамену ў жаночую спеласць... На нас, хлопцах, большасць упершыню тады купленых і надзетых касцюмаў, мякка кажучы, не ўпісвалася ідэальна ў нашы памеры. Хіба і зараз мужчынская частка пакуль не найлепш у тым узросце адчувае сябе ў адзенні мадэльных суперменаў. Але станцаваныя вучнямі паланэз і лявоніха глядзеліся фенаменальна. Ну і вядома бацькоўская заангажаванасць ніколі тут не мяняецца. Толькі арганізацыйныя інструменты іншыя. У маім «вапенным часе» бацькі мусілі самі купіць свіней на кілбасы і астатнія смакоцці, наняць мясніка, спячы хлеб і салодкую выпечку, а таксама вырашыць мноства арганізацыйных клопатаў, ад якіх нам, сённяшнім спажыўцам, вочы былі б увесь час у слёзах. У мой ліцэйскі час сённяшні ўсюдыісны катэрынг замяняла тагачасная бацькоўская талака.

❖ Яўген ВАПА

# Паэзія жыве сама сабой, з гэтым прыходзяць у свет...

**Ганна Кандрацюк: — Вы ўжо дваццаць гадоў жывяце і працуеце ў Любліне? Як Вы патрапілі ў Польшчу?**

**Наталля Русецкая:** — Першы раз я прыехала, калі быў абмен студэнтамі. Тады яшчэ такой паланістыкі, толкам, не было ў Мінску, і трэба было некаму ехаць. Адзін студэнт ехаў у Менск, а адзін з Менска — тады ездзілі на год. І былі таксама такія групавыя абмены, ехала па дзесяць чалавек на тры тыдні. Люблінская ехалі ў Менск, а нашы ў Люблін. А цяпер у нас няма ўжо беларусістыкі і абменаў.

**ГК: — Колькі гадоў ужо няма беларусістыкі ў Любліне?**

**НР**: — Гадоў пяць, мусіць, няма. Неяк так каля 20 гадоў праіснавала беларусістыка, а з'явілася яна ў 1993/1994 годзе.

**ГК: — Калі закрылі беларусістыку, Вы — выкладчык беларускай мовы пачалі працаваць як ...?**

**НР: —** Цяпер выкладаю рускую мову, але таксама вяду прадметы культурна-літаратуразнаўчага кшталту, як уводзіны ў літаратуразнаўства, міфалогію славян, вяду невялічкі курс балгарска-беларусіх сувязей. Зараз я вучу ў Каталіцкім універсітэце на аддзяленні славістыкі.

**ГК: — І адначасова Вы перакладчыца, паэтэса, творца?**

**НР: —** Я люблю пісаць, калі нечым занята, калі патрэбная нават не трэцяя, а пятая рука. Пакуль, адной рукой дзіця корміш, другой суп ці кашу варыш, а вось той трэцяй складаеш нейкія радкі. Можа таму я не празаік, ніколі ў яго не вырасту. Таму што ўтрымаць у галаве цэлы празаічны твор даволі цяжка. А верш можа напісацца па дарозе на працу, пакуль у кухні нешта робіш. Увесь тэкст можна ўтрымаць у галаве і пасля толькі яго запісаць. Ці хаця б радок! Бывае, што ходзіць ён за табой дзень, два, тры... А потым, сядзеш, тры хвіліны і вершык гатовы. Я ўвогуле вельмі люблю кароткія тэксты. Мне здаецца, чым менш слоў, тым лепш.

**ГК: — У вершах, якія Вы сёння прачыталі, адчуваецца нейкая прага святла, сакральнасці?**

**НР: —** Я проста выбрала такія перад святочнай парой (*інтэрв'ю я ўзяла напярэдадні Каляд — Г. К.*). Увогуле, гэтага ў мяне вельмі мала. Я такі больш чалавек тэатра. Больш як 15 гадоў у мяне муж быў драматург Сяргей Кавалёў. Шмат праектаў мы рабілі разам, таму для мяне нават рэлігія з'яўляецца часткай культуры. І калі такія матывы з'яўляюцца ў вершах, то цяжка іх зраўняць з перажываннямі верніка. Я колькі разоў паспрабавала ўвайсці ў рэлігію і практыкаваць веру, але на нейкім этапе я пачынаю сумнявацца і мяне, як бы зноў выкідае з гэтай сферы. Таму я ўвесь час такі назіральнік. Для мяне гэта больш функцыянуе як тэатр. Я люблю прыйсці ў царкву на службу. Але ўсе містычныя перажыванні не маюць той глыбіні і веры, яны застаюцца ў культурна-літаратурным вымярэнні.

Я заўсёды звяртаю ўвагу як у розных цэрквах адбываюцца багаслужбы. Ці тут у Польшчы, ці ў Балгарыі, ці ў Беларусі, ці ва Украіне. У кожнага свае культурныя адметнасці, прытым што тэксты службы тыя самы, асабліва калі яны на стараславянскай мове. Але інакш укладаюцца інтанацыйныя ноткі, інакш бачыцца культурная праслойка. Асабліва, калі адкрываюцца рэлігійныя песні. У кожным рэгіёне гэта свае песні. Зараз мяне адзін знаёмы прасіў напісаць Марыйную песню і я накідала некалькі куплетаў. А ён кажа: гэты тэкст атрымаўся больш людычны, не хапае ў імі сакральнасці, глыбіні Ну, а дзе гэта ўзяць? Паэт гэта бярэ з сябе. З таго, што ў цябе ўсярэдзіне.

**ГК: — Я не чакала такога адказу, мабыць інакш успрымаю Ваш тэкст. Скажыце, ці досвед здабыты ў Любліне неяк паўплываў на Ваша бачанне літаратуры?**

**НР: —** Я вельмі лёгка ўвайшла ў заходні свет і ўсё гэта адбывалася ўва мне з вялікім захапленнем. Я не планавала гэтага, не збіралася ў эміграцыю. Выпадкова выехала і выпадкова засталася жыць за мяжой. І выехала я з адкрытым сэрцам. Мяне ад пачатку моцна захапілі тыя моманты, якіх у беларускай літаратуры не было. Нядаўна я ўдзельнічала ў кангрэсе перакладчыкаў Гамбровіча, якога я раней перакладала. Такіх аўтараў як Гамбровіч не было ў Беларусі і толькі дзякуючы перакладам мы можам нешта прыўнесці. Цяпер яно, нават калі і ўвойдзе ў перакладную частку літаратуры, не будзе ўжо тым зернем, якое дасць парасткі на беларускай глебе. Гэта ўжо іншая часы. Шанцаў на такую літаратуру няма, час назад не адкруціш. Можа таму і цяжка гэтыя пераклады ўваходзяць і не знаходзяць водгуку ў беларускім грамадстве. Чытач не ведае, як гэта ўспрымаць. А мне, наадварот, заўсёды захапляла тая іншасць польскай літаратуры. І таму ў складаныя моманты жыцця з'ўлялася жаданне перакласці гэта, неяк прыспасобіць для беларускага чытача, адкрыць яму іншы свет. Гэта вельмі цяжка, я не ведаю наколькі ў мяне атрымалася. Але мне было вельмі шкада, што ў беларускай літаратуры не было такой з'явы і няма ўжо шансаў, каб з'явілася.

Таму перакладчыцкая праца вельмі важная. Я вельмі цешуся, што студэнты з Беларусі, якія прыязджалі да нас на курсы, на семестральныя абмены, як тая ж Марыя Пушкіна, паднялі выклік і гэтае зерне прарастае.

**ГК: — Менавіта, як з перспектывы Любліна Вы глядзіце на беларускую літаратуру?**



**Наталля РУСЕЦКАЯ** нарадзілася ў 1974 годзе ў горадзе Урэнь у РСФСР. Закончыла філалагічны факультэт БДУ. Працавала на Кафедры беларусістыкі ва Універсітэце Марыі Складоўскай-Кюры, а зараз выкладае на Каталіцкім універсітэце ў Любліне. Беларуская паэтэса і перакладчыца, аўтарка зборнікаў «Два бяссонні», «Каштаны ў кішэнях», тома перакладаў «Нясвіжскі альбом». Абараніла кандыдацкую дысертацыю нас тэму «Паэзія Францішкі Уршулі Радзівіл у кантэксце літаратуры Беларусі XVIII ст.». Супрацоўнічае з Нацыянальным тэатрам імя Янкі Купалы, на сцэне якога былі пастаўлены пераклады яе многіх п'ес, у тым ліку «Івона, прынцэса Бургундская» Вітальда Гамбровіча. Жыве ў Любліне

**НР: —** Я ўсё ж больш часу праводжу ў Польшчы і ў мяне адстаронены погляд. Я ўжо больш звонку гэтага працэсу. І бачу пэўную складанасць у адчуванні кантэксту беларускай літаратуры, мне трэба каментары, тлумачэнні. Хоць сачу і чытаю навінкі, але ахапіць усё немагчыма.

Пра беларускую літаратуру думаю з захапленнем. У нас, сапраўды, выдаецца вельмі шмат кніг. Мы, беларусы, любім наракаць, што ў нас і таго няма, і гэтага мала. А я гляджу і бачу, колькі ўсяго цікавага, вартаснага. Колькі ў нас перакладаў! Колькі літаратурных прэмій узнікла ў апошні час. Можа і няма ў нас шмат якасных літаратурных твораў, але іх не павінна быць шмат у нармальным літаратурным працэсе. Я часам размаўляю са сваімі польскімі калегамі, якія з'яўляюцца членамі журы, і яны таксама атрымліваюць дзясяткі новых выдадзеных кніг і кажуць, што няма нічога асаблівага, што бываюць даволі пустыя гады. Хаця непараўнальна большы кніжны рынак у Польшчы, чым у Беларусі.

Таму я захапляюся літаратурным працэсам, які адбываецца ў Беларусі, з'яўленнем новых аўтараў, новых кніжак, новых перакладчыцкіх праектаў, новых выдавецкіх праектаў...

А калі пра маё «глебжанне збоку», то яно дапамагае ў навуковым жыцці. Адстароненасць дапамагае, дазваляе шырэй і больш бачыць. Але спачатку не было проста, я спалохалася, што губляю сувязь з каранямі. Зараз я ведаю, што гэта нічога не мяняе, што калі ў Беларусі нешта зрушылася, зменіцца, я адразу туды вярнуся.

**ГК: — Ці памятаеце той момант, калі Вы ўпершыню падумалі пра сябе як пра беларускую паэтэсу?**

**НР:** — Паэзія жыве сама сабой, з гэтым прыходзяць у свет. Я памятаю сябе ва ўзросце 2-3 гадоў, як сядзела на печы і спявала песенькі, якія сама прыдумвала. Першыя гады жыцця я правяла ў бабулі ў вёсцы Вайнілава каля Ігумена. Ужо тады было ўва мне адчуванне рытму. Памятаю, як у пачатковай школе прынесла я сшытак і кажу: буду пісаць вершы. А гэта было ў час майскіх святаў. Я пачала рыфмаваць па-руску пра сцягі, кветкі, але мяне гэта не захапіла. Хоць моцна захапляла мяне сяброўка мамы, якая пад Новы год і на дзень нараджэння дасылала карткі з рыфмаванымі пажаданнямі. Я хацела быць такая як яна. І астатнім часам, калі яна адзначала юбілей, і я была запрошана, юбілярка выцягнула аднекуль маю паштовачку. Ну, там было нешта такое «Вось Вам сорак восем, а мне толькі восем». Ведаеце, такія рыфмы чанстахоўскія, але маё жаданне стаць паэткай было вельмі шчырае. Першыя вершы па-беларуску напісала яшчэ ў пачатковай школе на беларускія матывы: *Адышла асенняя пара, надышлі дажджы, на дрэвах лісце пажаўцелі, мурашкі пахаваліся ў свае зімовыя пасцелі...* Зразумела я, што беларуская мова гэта мова маіх вершаў. Яно мне так лёгка напісалася і спадабалася.

**ГК: — Вы з бацькамі размаўлялі ў хаце па-беларуску?**

**НР:** — Бацькі мяне нарадзілі ў Расіі, куды былі скіраваны пасля інстытута на працу. Але ва ўзросце двух месяцаў мяне прывезлі да бабулі на Ігуменшчыну. Там было поўнасцю беларускамоўнае асяроддзе. Мая бабуля працавала ў школе і гэта была беларускамоўная школа (цяпер яе няма, бо вёска вымірае). Усе падручнікі — па хіміі, па біялогіі, па геаграфіі былі па-беларуску. Памятаю, я хадзіла за бабуляй і яна мне ўсё расказвала. Увесь навакольны свет называўся беларускімі словамі. Бабуля прыносіла са школы нейкія прэпараты і казала: хадзі, табе фокус пакажу. Яна ўсё гэта тлумачыла мне па-беларуску. І мне здаецца, што гэтая першая беларуская плынь па сённія вельмі моцна ўва мне прысутная. Я памятаю бабуліны вершыкі, памятаю як з цёткай, якая была за мяне старэйшай на 9 гадоў, я вывучала на памяць «Новую зямлю». І тое, што псіхолагі кажуць — першая мова пераб'е ўсё астатняе.

Таму я назіраю, што ў маладога пакалення беларускіх пісьменнікаў гэтая мова вывучаная па кніжках і яна якасна іншая. Яны нават у перакладах робяць памылкі такога бытавога ўзроўню як свіння *капае*, а не *рые*. А хто на вёсцы скажа што свіння *капае*?

**ГК: — Нядаўна Ваш сын Глеб прыступіў да Алімпіяды па беларускай мове?**

**НР:** — Ён у гэтым вырас. А як рыхтаваўся да Алімпіяды? Я прынесла яму падручнікі і ён сам вывучаў мову. Калі чаго не разумеў, прыходзіў і пытаўся. Мы вельмі хваляваліся едучы ў Бельск. Не ведаем цяперашніх праграм, ні беларускіх, ні польскіх, таму чыста інтуітыўна вывучалі правілы, чыталі тэксты. Яшчэ калі з малымі дзяцьмі мы ездзілі на Браслаўскія азёры, я брала дзіцячую літаратуру, чытала ім. Літаратура жыве ў нашым штодзённым жыцці. Я нават калі пяку бліны, то нешта рыфмую. Дзеці ўсё гэта чулі з малога.

**ГК : — А на якой мове размаўляеце ў хаце?**

**НР:** — Калі мы рашылі, што застаемся жыць у Польшчы, дамовіліся, што бацька будзе гаварыць па-беларуску, я па-руску, а польскую мову ім дасць школа. Але бацькі часта не было ў хаце, ён усё па канферэнцыях і фестывалях ездзіў. Таму мовы ў нас мяшаліся. Але ў хаце ў нас былі розныя творцы, пісьменнікі і мова гучала. Але хлопцы доўгі час не гаварылі па-беларуску. З Зосяй ад пачатку я гаварыла толькі па-беларуску. Яна і іншых моў не ведала. Потым мы пачалі выязджаць у Беларусь. Бацькі мае рускамоўныя і яна нахапалася рускай. Цяпер у яе такі перыяд вінегрэту ў галаве, што ўсе тры мовы актыўныя аднычасова. Але пры гэтым ужо праклёўваецца адрозненне. У Глеба змалку была цікавасць да моў. У апошні час хлопцы загаварылі па-беларуску. І мяне ўсе пытаюць: як ты гэта зрабіла? А я сапраўды нічога не рабіла, я не прымушала. Яны чулі і самі вырашылі. Хоць жа ў мяне ёсць каляжанкі з Беларусі, якія адразу сталі гаварыць па-польску. У іх стаўка на асіміляцыю. І пасля, калі яны з часам пачынаюць звяртацца да рускай ці беларускай, дзеці не хочуць. Яны выбіраюць прасцейшы шлях.

**ГК: — Якія ў Вас уражанні ад «Бязмежжа»?**

**НР:** — Мне вельмі тут спадабалася, хоць для мяне толькі два дні — мала. Па-першае, у мяне ўзнікла адчуванне бязмежнасці. Я заўсёды падазравала, што дзяржаўныя межы гэта штучнае дзяленне. Але тое, што ўзнікае на сутыкненні розных народаў, краін, культур, у такім рондліку, ствярае нешта сваё. Тут гэта найбольш адчувальнае. Яшчэ і гаспадары такія цудоўныя, захопленыя сваёй справай людзі. І гэты сімбіёз прыроды, культуры, мовы. Вельмі натхняльнае асяроддзе! І сапраўды, мы выедзем адсюль поўныя новых энергій. Таму што сустрэчы з жывым, чалавечым — важныя. І, канешне, творцы важна мець сустрэчу з чытачамі. Вельмі важны абмен творчымі дасягненнямі, ідэямі, думкамі — гэта цудоўна!

**ГК: — У пачатку дзевяностых Вы сустрэліся з Надзяй Артымовіч. Ці ведалі іншых нашых аўтараў?**

**НР:** — Не, такіх асабістых кантактаў не было. З Надзеяй Артымовіч мы сустрэліся пры нагодзе прэзентацыі яе тома „Łagodny czas" у Любліне. І зараз, калі мы з Глебам ехалі ў Бельск на Алімпіяду беларускай мовы, першае, што мне ў галаву прыйшло, гэта радок з верша Артымовіч: «У Бельску старая музыка». І кажу Глебу: ведаеш, я гэты свет бачу і ўспрымаю радкамі Надзеі Артымовіч.

Гутарыла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Горад змяніўся на лепшае

Раён Гайнаўкі, акаймаваны вуліцамі Арміі Краёвай, Белавежскай і Пілсудскага, мне знаёмы з 1965 года. Як жа тут горад змяніўся на лепшае, між іншым, папрыгажэў. Гэты жыллёвы пасёлак прымыкае да Белавежскай пушчы.

У сонечны дзень, 28 студзеня гэтага года, я пайшоў найперш вуліцай Белавежскай. Мае яна асфальтавую маставую і паабапал тратуары. Пры ёй расце найбольш прыгожых здаравенных дубоў. Па гэтай вуліцы да чыгуначнага вакзала ездзіць аўтобус гарадской пасажырскай камунікацыі лініі № 2. На перадапошнім прыпынку гэтай аўтобуснай лініі ў рамцы ды на жалезным слупе вісіць неразборлівы размоклы расклад язды.

Мінаю вузкія ды без тратуараў але з асфальтавымі маставымі вуліцы Асныка і Лема. Пры вуліцы Белавежскай знаходзяцца прыгожыя мураваныя будынкі пякарні Падальшынскіх. Тут разыходзіцца па бліжэйшай ваколіцы прыемны пах хлеба і хлебабулачных вырабаў. Раней тут пякарні не было.

Выйшаў я на шырокую дагледжаную вуліцу Пілсудскага (яна — рухлівая павятовая дарога, якая вядзе цераз горад). Ад яе адыходзяць вуліцы Партызанская (яе памятаю балоцістай у дажджлівую восень або калі вясной сыходзіў снег), Гандлёвая, Калантая, Сташыца, Налкоўскай і Ажэшковай. Усе яны вузкія з асфальтавымі маставымі, але без тратуараў. Няма тут месца нават для дрэў. Пры даволі крутым павароце вуліцы Пілсудскага даўней быў рынак і зараз як напамін пра яго засталася вулачка Гандлёвая. На колішнім рынкавым пляцы багацейшыя жыхары горада, у тым ліку пару дырэктараў, пабудавалі сабе прыгожыя мураваныя прасторныя катэджы. Каля скрыжавання вуліц Пілсудскага і Калантая зараз пабудавалі вельмі прыгожы пансіянат. Гэтую частку горада называюць Чваракамі. Тут сем'і прадстаўнікоў рабочага класа жылі ў вялікіх драўляных бараках — у кожным па чатыры сям'і. Варта дадаць, што зараз па вуліцы Пілсудскага ездзяць гарадскія пасажырскія аўтобусы ліній 1 і 2. І тут такое. Замала курсаў у выхадныя дні. **(яц)**

## Гайнаўская гміна

Вясковая Гайнаўская гміна займае плошчу ў 293 квадратных кіламетраў (18 % тэрыторыі Гайнаўскага павета). Зараз у гміне ў 37 вёсках пражывае 3930 асоб. Шчыльнасць насельніцтва складае 13 чалавек на квадратны кіламетр. На 100 жанчын прыпадае столькі ж мужчын.

Мужчыны ў сярэднім узросце, калі жэняцца, дык бяруць за жонак маладзейшых ад сябе жанчын на 5 і больш гадоў. Сярод дарослай моладзі менш такіх выпадкаў. Тут і дзяўчаты выходзяць замуж за маладзейшых ад сябе кавалераў. Даволі часта маладыя жывуць з сабой без шлюбу, як кажуць, „на карту равароў" або яшчэ інакш „на коцё лапэ". Разводаў бывае шмат.

Да найбольшых вёсак належаць Дубіны — 770 жыхароў, Арэшкава — 364, Ліпіны — 310, Старое Беразова — 268, Навасады — 262, Новае Беразова — 260, Махнатае — 189, Новае Корніна — 165, Барысаўка — 110 і Пасечнікі—Вялікія — 108. Менш чымсьці сто жыхароў налічваюць Дубічы-Асочныя — 93 жыхары, Хітрая — 87, Трывежа — 86, Пасталова і Чыжыкі — па 84, Рэпіска — 75, Пуціска — 64, Катоўка — 57, Савіны Груд — 47, Барок — 45, Васількова — 44, Бельшчына і Сарочая Ножка — па 42, Звадзецке — 33 і Тапіла — 31.

Малымі пасяленнямі з'яўляюцца Буды-Лясныя (3 жыхары), Галяковая Шыя (4), Дубінская Ферма (6), Скрыплева (13), Сахарэва (15), Пераходы (18), Лазіцы (21), Смаляны Садок (24), Альховая Кладка (27), Выгода (28), Прагалі і Чарлёнка-Лясная (па 29).

У вялікіх і малых сёлах Гайнаўскай гміны лік жыхароў з кожным годам змяншаецца і прагнозы мала аптымістычныя.

**(яц)**

# Тутэйшая паэзія галасамі дзяцей



Ася Свідэрская

У старадаўнім Бельску, калысцы шматлікіх выдатных беларускіх паэтаў Беласточчыны, у беларускай школе № 3 узнікла задума ажыццяўлення новага дэкламатарскага конкурсу для дзяцей. «Беларуская літаратура Польшчы» ў вуснах моладзі пачалася выпускам „Падляшша і прырода ў паэзіі «белавежцаў»" у студзені 2020 года. На першы конкурс заявіліся маладыя дэкламатары з пяці падляшскіх школ. Як журы выступілі старшыня бяльшчанін, паэт і навуковец Ян Чыквін — шэф Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», Ганна Колас ды задумшчыца гэтага мерапрыемства настаўніца Іаанна Васілюк.

Першым выступіў вучань першага класа з «тройкі» Патрык Казлоўскі, які бойка, хаця з вялікім хваляваннем (дэбют!) прадэкламаваў верш Віктара Шведа «Рабіна». Віктар Швед, аказваецца, не першы раз улюбёны аўтар малодшых дзяцей, якія ахвотна дэкламуюць яго простыя, дасціпныя творы пра роднае, вясёлае і найбліжэйшае ім — школьнае, сямейнае, прыроду. Юлька Дэмянюк выбрала вершык В. Шведа «Чаму ходзіш ты з кіёчкам», Іза Галушэўская — «Я хачу мець брата», Маня Грыгарук — «Матуля варыць кашулі», Дамініка Мартынюк — «Сашку і мурашку», Каліна Місюк — «Ці яйкі напэўна зносяць куркі?». Як сказалі вучні малодшых класаў, вельмі падабаюцца ім вершы паэта, якога новыя творы ўсё з цікаўнасцю знаходзяць у кніжках і ніўскай «Зорцы, «а яму амаль сто гадоў»! Ён дзедка або і прадзедка падляшскіх маладых беларусаў! Другой аўтаркай, якую дзеці ведаюць з урокаў беларускай мовы, з'яўляецца цёця Міра Лукша, а найбольш вядомыя «Жывінкі з глыбінкі», дзе знойдзеш і краязнаўчыя кропкі. Юля Алексяюк пазнаёміла з «Зубром з Зуброў», Якуб Белаказовіч з «Яршом з Ярашоўкі», Зося Грыгарук з сатырычнай «Малпай з Абезянава», Зузя Міранкевіч — з «Сарокай з Сарочай Ножкі», Оля Раманчук — з «Жабай з Жабінай Горкі», а Оля Стэпанюк — з «Козлікам з Козлікаў». Затое Зося Галубоўская знайшла верш (сам можа аўтар — вядомы празаік — цяпер і не знайшоў бы яго) «Белая сняжынка» Міхася Андрасюка. Старэйшыя вучні выбіралі аўтараў, якія хутчэй не пішуць для малечаў. Дэкламавалі творы аўтараў, якіх ужо няма — Ніна Белавежац твор «Краскі» Уладзіміра Гайдука і Ніка Паўлоўская ягоны «Падрунак восені», Міхаліна Косціна — верш «Мова мая» Міхася Шаховіча. І «амаль стагадовых»: Віктара Шведа — Рафал Мароз «Поўную хату экспанатаў», Іаанна Свідэрская — «Закляты ў камені», Мікола Троц «Бацькоўскі парог», Якуб Анішчук «Ліпу», ды Дзмітрыя Шатыловіча — «Абудзілася прырода» дэкламавала Мартына Герэз, «Родную прыроду» Міхал Вардэцкі, «Музыку прыроды» Грыша Зінкевіч. Сярожа Шэшка са школы ў Агустове, вельмі падобны да аўтара ў маладосці, выбраў да дэкламацыі «Беластоцкі край» Алеся



Ян Чыквін падпісвае свае кніжкі



Зося Голубоўская

Барскага. Марыся Пякарская і Кацярына Іванюк дэкламавалі няпростыя вершы бяльшчанкі Надзеі Артымовіч «Ікона» і «Бельску». Ажывілі творы маладзейшых «белавежцаў»: Жэні Мартынюк «У маміным агародчыку» — Юля Сахарчук, Міхася Андрасюка «Прабудзі мяне» — Сара Скаўронская, а наймалодшага Юркі Буйнюка «Спадчыну» — Барташ Яканюк. Трапіўся ў конкурсе верш народнай аўтаркі Валянціны Мядзведзь «Мая вёска» (выбрала яго Таня Сахарчук).

— Я выбраў верш Віктара Шведа «Ліпа», — кажа Куба Анішчук. — І пані Аня Хомка таксама яго падказала мне. Падабаюцца мне вершы аб прыродзе. Я вучуся ў Аўгустове, але я з Бельска. Вельмі файная школа ў Аўгустове.

Сярод малодшых І месца атрымала дэкламацыя Зузанны Міранкевіч, ІІ месца — Зосі Галубоўскай, ІІІ — Даміінікі Мартынюк. У старэйшай групе палічана за найлепшую інтэрпрэтацыя Нікі Паўлоўскай, на ІІ месцы апынулася Мартына Герэз, на ІІІ — Барташ Яканюк.

— У новым конкурсе ўдзельнічае не толькі Бельск, — кажа Іаанна Васілюк, — «тройка» і праваслаўная. Ёсць вучні з Гайнаўкі, Беластока, Аўгустова. Пяць школ, як на першы раз — гэта няблага, 31 вучань. Спадзяюся, што конкурс будзем праводзіць штогод. Пакуль паэзія беларускіх творцаў Польшчы, але думаем гэта пашырыць на ўсю літаратуру, і ахапіць усе школы на Падляшшы.

— Я ад свайго імя і ўсіх «белавежцаў», — выступіў Ян Чыквін, — якія жывуць, пішуць, і якія адышлі ад нас, бо вы чыталі творы многіх паэтаў, якія пакінулі наш свет, і прыгожа вы нас чыталі. Мне вельмі прыемна, што ўзнікла такая ініцыятыва, каб на гэтым узроўні ці іншым праводзіць такія конкурсы, дзе асноўным матэрыялам была б «белавежская» літаратура. Я вельмі рады, і думаю што ўсе «белавежцы» прымаюць гэта як знак, які павінен быў здарыцца гадоў таму дваццаць-трыццаць. «Белавежа», як літаратурная арганізацыя, якая існуе ўжо больш за 60 гадоў, і вось толькі цяпер упершыню, дзякуючы настаўніцам бельскай школы, выйшла ініцыятыва, каб чытаць тэксты, апіраючыся выключна на «белавежскіх» пісьменніках. Я вельмі ўзрушаны тым, як чыталі вершы вучні ад І да V класа, і як старэйшыя дэкламавалі сур'ёзныя вершы. Я для сябе яшчэ раз адкрыў у вашым чытанні, у чытанні вашых сяброўак і сяброў, забытыя мною карціны нашай прыроды. І гэта цудоўна, што наша прырода мае ўсе барвы жыццёвыя. Яна прамаўляе, схіляе да таго, каб над ёю пахіляцца, вывучаць і насіць у памяці. І якраз школа з'яўляецца гэтым перыядам, калі маладыя могуць засвойваць на памяць такія тэксты. Я ўжо і раней гаварыў, што магчыма ў будучыні трэба такі конкурс пашырыць на тое, каб не толькі гаварыць па памяці, але сарганізаваць і чытацкі конкурс. Думаю, што гэта разам у будучыні прынясе патрэбны плён. Дзякую і настаўнікам, і ўдзельнікам гэтай вельмі карыснай, добрай, педагагічнай і выхаваўчай ініцыятывы.

— І варта ажывіць паэтычны дух у бельскіх школах, адкуль выйшлі такія выдатныя паэты, — дадала ніжэйпадпісаная. — Чытаць, дэкламаваць, і пісаць!

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**



# Справа Кастуся жыве

**Так шмат бел-чырвона-белых сцягоў у Мастаўлянах яшчэ ніколі не было. Беларусы Беластока, Варшавы, Гародні і іншых гарадоў сабраліся каля помніка ў гонар Каліноўскаму. Пры самой граніцы з Беларуссю 2 лютага сабраліся людзі, для якіх постаць Каліноўскага ніколі не была абыякавай, але ўпершыню яны аб'ядналіся ў тым знакавым месцы. Відаць, імя Кастуся Каліноўскага, як нязломнага мужнага чалавека і героя, загучала з новай сілай пасля падзеі ў Вільні.**

Менавіта 2 лютага нарадзіўся палымяны рэвалюцыянер-дэмакрат, мысліцель, паэт, публіцыст, кіраўнік паўстання 1863 года ў Беларусі і Літве Кастусь Каліноўскі. Паўстанне 1863 года было адным з цэнтральных звенняў палітычнага і духоўнага адраджэння беларускага народа: без яго, відавочна, не адбылося б паскоранае развіццё нацыянальнай культуры ў пачатку XX стагоддзя.

У дзень нараджэння нацыянальнага героя грамадскія актывісты ўшанавалі яго памяць. На радзіму Кастуся Каліноўскага прыехала каля трох дзясяткаў чалавек з Гародні, Беластока, Варшавы ды іншых гарадоў.

— Постаць Кастуся Каліноўскага гэта для мяне прыклад, — адзначыў Сяргей Пальчэўскі з Варшавы. — Прыклад таго як трэба змагацца за Беларусь, за свае ідэалы. Сапраўды нам трэба працягнуць гэтую справу, таму што справа Кастуся жыве і яе трэба завершыць. На нас спачывае адказнасць.

Удзельнікі неслі з сабой сцягі народаў, якія ўдзельнічалі ў паўстанні 1863-1864 гадоў. Сярод іх былі тыя, якія штогод прыязджаюць у Мастаўляны на дзень народзінаў Каліноўскага, а таксама тыя, хто туды трапіў упершыню.

— Я адмыслова сюды прыехаў з Варшавы, каб прысутнічаць на гэтым, можна сказаць, святым месцы, дзе нарадзіўся Кастусь Каліноўскі, — адзначыў адзін з удзельнікаў Аляксей Буранок. — У мяне вельмі ўзнёслыя пачуцці. Я вельмі цешуся, што знаходжуся зараз на самой мяжы з Беларуссю, на месцы, якое вельмі для нас значнае.

Каліноўскі з'яўляўся аўтарам „Мужыцкай праўды". Першая беларуская газета выдавалася на беларускай мове лацінскім шрыфтам. „Мужыцкая праўда" мела абуджаць у людзей пачуццё, што яны самі павінны дбаць аб сваіх сацыяльных і нацыянальных інтарэсах. Паказваў Каліноўскі беларусам, што трэба, каб народ паўстаў і пачаў самастойнае існаванне, што на думку дзеяча і пісьменніка Віктара Сазонава, надалей з'яўляецца актуальным.

— Неверагодна вялікі гонар стаяць на гэтай зямлі, дзе нарадзіўся чалавек і нарадзілася з ім новая ідэя аднаўлення Беларускай дзяржавы, дзе беларусы будуць сябе адчуваць утульна, вольна і рабіць са сваім лёсам, са сваёй гісторыяй тое, што яны лічаць патрэбным, — сказаў гарадзенец Віктар Сазонаў. — Неверагодна вялікі гонар быць тут, убачыць людзей, убачыць нашы сцягі, сустрэцца са сваімі сябрамі і ўспомніць нашых славутых продкаў.





Пасля збору каля помніка патрыёты расцягнулі велізарны беларускі нацыянальны сцяг і пакрочылі да месца, на якім стаяла хата сям'і Каліноўскіх.

— Дзе ён нарадзіўся, жыў першыя гады жыцця да таго, як яны пераехалі, як тут кажуць, за рэчку, у Якушоўку, — кажа кіраўнік ініцыятывы „Беларуская нацыянальная памяць" Анатоль Міхнавец. — Стары падмурак хаты, які вы зараз бачыце, гэта частка той вялікай хаты, у якой яны жылі. І вось, бачыце, тут ёсць кутні камень падмурка, усё, што засталося. Бо частка хаты была прададзена, бо яна была вялікая, а частка засталася. І вось там зараз жывуць людзі, якія дазволілі зайсці і ўшанаваць. Там кутні камень, які ў традыцыйнай культуры, хрысціянскай, заўсёды шанаваўся як моцны духоўны знак.

Вядома, што афіцыйна савецкая ідэалогія неахвотна прымала гістарычную праўду пра Вялікае Княства Літоўскае і Студзеньскае паўстанне 1863 года. Пасляваенная савецка-беларуская гістарыяграфія маргіналізавала ці нават выкідала памяць пра тыя перыяды, калі беларусы спрабавалі змагацца за незалежнасць. На працягу дзесяцігоддзяў улады імкнуліся прышчапіць, не толькі беларусам, афіцыйны міф аб адзінстве і братэрстве грамадзян Савецкага Саюза. Сёння ў Беларусі Кастусь Каліноўскі надалей не згадваецца ў падручніках. Усё-такі беларускія дзеячы, хаця ўсведамляюць сабе цяжкасці рэалізацыі і папулярызацыі ўласных ідэй, безупынна змагаюцца за ўсталяванне гістарычнай справядлівасці.

— Традыцыя ўшанавання Кастуся Каліноўскага павінна пашырацца, — адзначыў адзін з першых, якія ўшаноўвалі памяць Каліноўскага ў Беларусі, Уладзімір Хільмановіч. — 25 гадоў таму яна пачыналася ў Якушоўцы, у Свіслачы, там, дзе таксама быў маёнтак Каліноўскіх. Сёлета тым больш, паколькі ў Вільні адбылася такая лёсаносная падзея, пачынаецца новы адлік у нашай гісторыі. Трэба ўшаноўваць памяць Каліноўскага пачынаючы з Мастаўлянаў, а канчаючы на Салечніках, дзе знаходзіцца цудоўны помнік, магчыма адзін з самых прыгожых помнікаў Каліноўскаму. Гістарычная памяць забяспечвае і пераемнасць, і дабрабыт дзяржавы, і яе гонар. Будзем ушаноўваць нашых нацыянальных герояў — паўстанцаў 1863 года, якія з'яўляюцца героямі некалькіх народаў нашай усходняй Еўропы і будзем жыць як народ, будзем жыць як нацыя, будзем развівацца як дзяржава.

Кастусь Каліноўскі безумоўна гонар і слава перш за ўсё беларускага народа, з асяроддзя якога выйшаў, хаця вынікі яго дзейнасці з'яўляюцца здабыткам еўрапейскіх народаў. Па такіх дзеячах суседзі і могуць судзіць аб беларусах, аб іх укладзе ў скарбніцу сусветнай культуры, грамадскай думкі і рэвалюцыйнага руху.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

*(беларуская народная легенда)*

# Месяц

Было ў бацькі два сыны. Не схацелі яны жыць дома, пайшлі ў свет шукаць лёгкага хлеба і прыемнага жыцця. Выйшлі яны з дому і пайшлі па адной дарозе, ажно прысталі на ростанях.

— Чаго нам хадзіць разам? — сказаў старэйшы брат. — Разам мы знойдзем адно дабро і шчасце, а як пойдзем асобна, дык можа знойдзем два шчасці і два дабра.

— Хадзем асобна! — згадзіўся малодшы.

Як сказалі так і зрабілі. Старэйшы брат пайшоў направа, а меншы — налева. Свет вялікі, кожнаму месца хопіць. Доўга яны хадзілі, доўга шукалі шчасця. Старэйшы брат патрапіў у чужое царства ды наняўся на службу да знатнага пана. Той пан ездзіў да самога цара і раз ён узяў з сабой вернага слугу. Пабачыў хлапца цар, захапіўся ім і забраў старэйшага сына да сябе на службу. Жыве наш брат у самога цара, ніякай бяды не знае, хіба што птушынага малака яму не хапае...

Доўга хадзіў і малодшы брат па свеце, многа бачыў добрага і ліхога, але ліхога больш чым добрага. Яму хацелася ўсё бачыць, усё паспрабаваць, ці то яно салодкае ці горкае. І аднойчы патрапіў у царства, дзе служыў яго старэйшы брат. Стаў навучаць людзей, як ім жыць, каб усім было добра і каб усе былі шчаслівы...

Пайшлі чуткі пра мудрага праведніка. Дачуўся пра гэта і старэйшы брат. Пайшоў ён пабачыць настаўніка і абурыўся на яго:

— Гэты прыблуда народ бунтуе, — данёс ён цару, — абяцае ім лепшую долю і шчасце!

— Гэта вялікая небяспека, — пагадзіўся цар, — трэба яго знішчыць!

Старэйшы брат сам папрасіўся выканаць задачу. Ён сабраў шайку, схапіў вестуна і задушыў яго сваімі рукамі. Але ў той момант яго перацяў невыносны ляк і страх. Ён скінуў свае залатыя апранахі і пабег у лес. Усю ноч бегаў як воўк і пазіраў на Месяц. Месяц таксама пазіраў на яго — здавалася, ён бяжыць побач, а калі брат-злачынца прыстане, ён таксама прыставаў. Урэшце выбіўся з сіл і грымнуў на зямлю. Ляжыць і пазірае на Месяц. І бачыць як брат брата забівае! Тады здагадаўся старэйшы брат, каго ён прыкончыў сваімі рукамі. І памёр ад жалю...

З гэтых часоў заўсёды віддаць, што на Месяцы стаіць брат над забітым братам.

(Паводле легенды, запісанай этнографам Сержпутоўскім у вёсцы Рожан, што на Случчыне.)

**(гак)**



Сябры з бельскай «тройкі»



## Падтрымалі традыцыю

15 студзеня г.г. у Садку № 3 з інтэграцыйнымі аддзеламі ў Гайнаўцы, адбыўся конкурс пад загалоўкам „Конкурс калядак і пастаралак”. Напачатку „Нeбо і земля” праспявалі „Званочкі”, прадшкольны калектыў пад кіраўніцтвам Ёлі Ваўкавыцкай і пры акампанеменце Улі Рачкоўкай-Філіновіч. Яны — лаўрэаты першага месца на „Гайнаўскіх сустрэчах з праваслаўнай калядкай”.

Выступілі таксама дзіцячы хор Сабора Святой Тройцы і схоля Парафіі Паднясення Святога Крыжа ў Гайнаўцы. Да конкурснай часткі прыступіла 15 сем’яў, прагучалі традыцыйныя калядкі. Большасць удзельнікаў упрыгожвала выступленні маляўнічымі касцюмамі, маскіроўкамі, рэквізітамі і інструментамі. Усё гэта стварыла выдатны, святочны настрой. Былі прызначаны месцы, вылучэнні, але самае важнае, што ўсе сталі пераможцамі — выступілі перад публікай, правялі час з сям’ёй і падтрымалі традыцыю.

Дзякую арганізатарам, дырэктар і бацькам за супольна праведзены час. Мы разам і таму мы ўсе пераможцы!

**Альжбета РАМАНЧУК**

## УВАГА КОНКУРС! № 06-20

**Што гэта за вочы, адно свеціць удзень, а другое — уночы?**
**М.... і С....**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 22 лютага 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 2: венік. Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі Мая Тапалянская, Сара Дэрпенская з Нарвы, Вікторыя Баркоўская, Давід Сурэль, Пеця Вілюк з Арэшкава. Віншуем!**

**Сяргей Чыгрын**

### Ліса і воўк

Ціхім, снежным, сінім ранкам
Воўк лісу катаў на санках:
Вёз направа, вёз налева —
Ліса ў санках — каралева.
Воўк стаміўся, пот цячэ,
А ліса крычыць: „Яшчэ
Пакатай мяне у полі,
Там сняжку цяпер даволі...”.
Цягне воўк лісу на санках
Па сцяжынках і палянках.
Між кустоў і дрэў старых
Аж займае ў воўка дых
Так знямогся, шэры, зранку
Ледзьве цягне лісу ў санках...
Скінуў ў гурбу між бяроз
І далей больш не павёз.

**Стары Дзік**

### ДЗ і ДЖ

Дз і Дж — вымаўляў Максім,
расцягваючы мышцы
на твары сваім.
Практыкаваннем вымаўлення
так пераняўся,
што разам з літарамі
змагарны вобраз
яму склаўся.
Літаркі шапталі яму
Дзікуй і Джалі,
каб Твайго алфавіту
не скралі чужалі.

Размалюйце!

# Міфы
## старажытных беларусаў

**Месяц** — беларусы лічылі, што месяц ходзіць навыперадкі з сонцам, але ніяк не можа яго дагнаць. Старажытная легенда сцвярджае, што Бог сказаў месяцу свяціць ноччу, пакуль спачывае сонца, але той гультайнічаў і кепска свяціў, дык Бог вырашыў пазбавіць яго першапачатковай акругласці і заставіў перараджацца кожныя чатыры тыдні. Цяпер ён першы тыдзень «малады», тонкі. Другі тыдзень — расце, пухне да поўні. А трэці — ужо поўны, круглы, набрынялы. Пасля, на чацвёртым тыдні ён ужо «стары» і знікае.

Але пакідае след! Людзі верылі, што Бог пакрышыў «стары» месяц на зоркі, таму ён зноў адраджаецца і мяняе квадры.

Дзякуючы асаблівасцям руху месяца па небе ў людзей узнікла думка стварыць каляндар.

Святлу месяца нашы продкі прыпісвалі шкодныя асаблівасці: пры ім бегаюць па палях, гушкаюцца на дрэвах і плешчуцца ў вадзе русалкі, а лясны гаспадар лесавік пляце тады лапці.

Людзі не дазвалялі святлу месяца трапляць на калыску немаўляці, каб яно не захварэла лунатцізмам.

Святло месяца лічылі неспрыяльным для агуркоў, гарбузоў, гароху, бобу і маку, бо яно выклікала ў раллі пустацвет.

Месяц звязвалі са светам памерлых людзей, якія нявінна загінулі. Чырвоны колер месяца ў поўню тлумачылі тым, што ён свяціў у час забойства і прыняў кроў пакутніка. Пры з'яўленні маладзіка чыталі малітвы, якія прысвячалі душам, што не дачакаліся новага месяца і нядаўна памерлі.

Па месяцы прадказвалі надвор'е і будучыню. Калі вакол начнога свяціла з'яўляліся колы, то гэта прадказвала хуткае пагаршэнне надвор'я. А калі на месяцы з'яўляўся крыж, гэта прадвяшчала вайну.

У беларускім фальклоры месяц выкарыстоўваўся ў вясельных абрадах. Месяц быў ідэальным партнёрам для сонца і пад яго вобразам бачылі маладуху.

У старажытнай песні з Арэшкава ёсць такія словы:

Там за ліесом
за бором
за сінэнькім озёром
Там слонечко іграло
з месяцьом розмовляло...

Размова, як можна здагадацца, завяршылася блаславеннем маладой «прэкраснай» пары і слаўнага сяла Арэшкава.

(Адрэзак адрэдагаваны на аснове кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей»)

**(гак)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 06-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 2-2020:**
Вячоркі, рыс, агрэст, шал, рай, галерэя, насок, ні, сцяг, спец, Нур, снегапад. Вір, шанс, палац, ох, Леся, рог, грэк, на, Рая, суп, рэй, пра, рыс, не, сталіца.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Мацей Нядзьведзь, Вікторыя Кандрат** з Нараўкі, **Мая Тапалянская, Віка Якімюк** з Нарвы, **Юліянна Роля, Ганна Кукулка, Матэвуш Крот** з Орлі, **Матэвуш Бура** з бельскай «тройкі», **Антаніна Варанчук, Якуб Аваручук** з Арэшкава. Віншуем!

Szanowny pan, Park, Hart, Nasz, Silny, Bierz, Spokojny, As, Czoło, Kopa, Kut, Rynek, Balon, Prasa, Przędza, Prawo, USA, Klasa, Przystanek, Orzeł, Arena, Ołówek, Bór, Oj, Rosa, My, Siła, Skrzydła



# П’яны герой



**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**
Альхоўка

У мінулым XX стагоддзі на маёй вясковай вуліцы было многа людзей: малых, маладых, дарослых і пажылых. Святам часта па вуліцы хадзілі п’яныя мужчыны.

Тыя, што многа пілі, спявалі па-п’янаму, ляжалі пад плотам, адчувалі сябе мясцовымі «героямі», не любілі цвярозых, бо цвярозы чалавек п’янаму не калега.

Шмат хто з мясцовых мужыкоў лічыў выпіўку гонарам. П’яныя часта з песняй ішлі дамоў.

Сярод п’яных вылучаўся адзін Ваня, якога гарэлка, так сказаць, «не брала» і які добра помніў дзве доўгія вайны.

Як большасць мясцовых сялян быў ён чалавекам бедным, але з моцным загартаваным здароўем. З ранняй вясны да позняй восені хадзіў ён босым па вуліцы і ніколі не хварэў, а калі трэба, то лячыўся алкаголем. Бачылі яго часта, як ішоў босы вуліцай у расшпіленай кашулі і гарланіў вядомыя рускія песні. Здалёк было чуваць яго п’яны, але меладычны голас:

Раскиулось море широко-о,
И волны бушуют вдали-и,
Товарищ, мы едем далёко-о,
Подальше от нашей земли-и!

Потым ён прыставаў, аглядаўся на бакі і, махаючы рукамі, пачынаў свой п’яны маналог: «Кто Ваньку тронет? Ваньку никто не тронет. Ванька — герой! Кто Ваньку тронет, тому конец, могила!».

Людзі глядзелі і смяяліся, што чалавек дурны, бо п’яны. А ён ішоў далей і спяваў: «И жить будем, и гулять будем, придёт время, помирать будем».

Затрымаўшыся крычаў, каб усе чулі: «А Ванька не умрёт. Ванька пил и пить будет». Напрыканцы свайго доўгага жыцця ён любіў успамінаць ваенны час і ганарыўся тым, што яму пашанцавала перажыць ваеннае ліхалецце.

За першага немца Ваня быў вучнем чатырохкласнай школы ў сваёй вёсцы. Вучылі тады дзяцей па-беларуску і панямецку. Нямецкай мове вучыў школьнікаў малады настаўнік, жыхар суседняй вёскі, які ў царскі час вучыўся ў Настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы. Гэты настаўнік быў вельмі практычны. Выклікаў ён вучня да дошкі словамі: «Komm an die Tafel”. Вучань уставаў з парты і мусіў адказаць: «Ich gehe an die Tafel” і тады ішоў да дошкі. Настаўнік загадваў: «Schreibe!” Вучань адказваў: „Ich schreibe”, браў крэйду і пісаў. Так дзеці знаёміліся з нямецкай мовай, якая прыдалася Ваню ў час гітлераўскай акупацыі.

У жніўні 1939 года польская дзяржава мабілізавала Ваню на вайну з немцамі. Як жаўнер польскага войска трапіў ён у нямецкі палон. Каля Уладавы над Бугам немцы зрабілі сельскагаспадарчы маёнтак, дзе палонны Ваня працаваў за талерку супу і кавалак хлеба. У жніво працавалі там да заходу сонца, а калі звозілі з поля сухое збожжа, то па заходзе сонца не клалі на воз ані аднаго снапка. Такі там быў звычай. У гэтым маёнтку Ваня падвучыўся гаварыць панямецку.

Зіма 1941 года была на рэдкасць марозная. Буг цалкам замёрз. Ваня з адным хлопцам і дзяўчынай (усе з правага берагу Буга) надумаліся рызыкнуць і ўцячы ад немцаў на радзіму. У позні снежаньскі вечар яны тайком дайшлі да ракі, непрыкметна па лёдзе перайшлі рачную дзяржаўную мяжу, выйшлі на шырокі гасцінец і, пачуўшы свабоду, сталі ісці на поўнач.

Адчувалі яны сябе надзвычай шчаслівымі, бо іх не заўважыў нямецкі вартаўнік, які стаяў з вінтоўкай на мосце. Ішлі далей, размаўлялі як савецкая ўлада іх прыме, як атрымаюць білеты на праезд цягнікам, як іх сустрэнуць родныя і блізкія людзі, як уцешацца бацькі.

Ваня адчуваў сябе героем, які так лёгка вырваўся з палону. Падобна мроілі яго таварышы па нядолі: хлопец і дзяўчына. Раптам пачулі грозны вокліч: «Стой! Руки вверх! Кто идёт?» Іх затрымаў савецкі пагранічны патруль і як парушальнікаў граніцы завялі іх на заставу, правялі кароткі допыт і нанач замкнулі як арыштантаў.

Раніцай наступнага дня пасадзілі ўсіх трое ў аўтамашыну і павезлі ў Брэст на суд. У судзе некалькі раз ставілі Ваню адны і тыя ж пытанні: хто ты, адкуль ты, куды ішоў, чаму перайшоў граніцу. Ваня адказваў шчыра на пытанні, але суддзя яму не верыў, а падсудны не разумеў, за што яго судзяць.

Ваню палічылі шпіёнам і за нелегальны пераход граніцы засудзілі на тры гады турэмнага зняволення. У брэсцкай турме ён прасядзеў толькі паўгода.

Досвіткам 22 чэрвеня 1941 года Германія нечакана напала на Савецкі Саюз. Нядзельнай раніцай вязні брэсцкай турмы пачулі гул самалёта, выбухі бомбаў, страляніну, мітусню ў горадзе і зразумелі, што пачалася новая вайна.

Турэмная ахова разбеглася, ніхто не адамкнуў вязням жалезных дзвярэй, у якія заключаныя людзі білі чым толькі маглі. Ім хацелася свабоды, аб якой прагна марылі і таму бралі доўгія турэмныя лавачкі, разбягаліся і з усёй сілы білі ў дзверы, пакуль жалезныя заклёпы не пусцілі.

Выйшаўшы на волю, Ваня распытаў дарогу на Белавеж. На абочыне дарогі сустрэў ён маладога хлопца-салдата, які адбіўся ад свайго атрада, памяняў салдацкую форму на цывільную вопратку. Паходзіў ён з Арэшкава каля Гайнаўкі. Ваня са сваім новым падарожнікам бачылі ў небе эскадрыллі самалётаў з чорнымі крыжамі, якія ляцелі на ўсход і неслі смерць мірным людзям і чырвонаармейцам. Здавалася ім, людзям з Белавежскай пушчы, што на свеце няма такой сілы, якая магла б спыніць нямецкія самалёты, танкі і добра ўзброеную пяхоту.

Пяхотны афіцэр затрымаў Ваню з калегам-падарожнікам і запытаў, куды яны ідуць. Ваня па-нямецку адказаў, што яны выйшлі з савецкай турмы. Немец тут жа пацікавіўся, чаму Ваня на твары белы, а калега загарэлы. Адказ ён пачуў, што Ваня сядзеў, а калега працаваў на двары. Афіцэр паверыў і іх пусціў. Дапамагла тут Ванева нямецкая мова. Яны шчасліва дабраліся цераз Камянец і Каменюкі да Белавежы, а пасля да сваіх вёсак.

Пасля месяца свайго панавання гітлераўцы сталі паліць прыпушчанскія вёскі вакол Нараўкі. Ваня стаў жыць у свайго брата Паўла ў Семяноўцы, дзе таксама жылі і стаялі нямецкія паліцаі. Асеннім святам адзін выпіўшы немец надзеў баксёрскія рукавіцы і, ідучы вуліцай, каго ні спаткаў, запрашаў на «бокс». Людзі ўцякалі на панадворкі, хаваліся ад яго.

Ваня пры сваце таксама перакуліў некалькі кілішкаў самагонкі. Убачыўшы неспадзяванага баксёра, рашыў паспаборнічаць, паказаць немцу беларускі бокс. Ён два разы моцна ўдарыў праціўніка, які зваліўся на зямлю. Немец быў без зброі і не мог нічога зрабіць «баксёру» з Семяноўкі. Тым часам у Ваневай галаве пасялілася трывога: «А што будзе далей? Другія немцы прыйдуць і мяне заб’юць!» Да брата ён ужо не пайшоў, але шпарка пакрочыў на вясковыя лугі, дзе стаялі абарогі з сенам. У абарозе Ваня пераначаваў і калі развіднела, падаўся за 35 кіламетраў у Ласінку, дзе ў той час жылі яго вясковыя калегі, браты Павал і Юзік.

Павал з жонкай былі ўласнікамі млына, у якім сяляне з Ласінкі і навакольных вёсак малолі збожжа на муку. Ваня стаў памагаць Паўлу ў млыне. Тут заўсёды заставалася трохі мукі, з якой Юзік з жонкай гналі самагонку і гандлявалі алкаголем.

Прыходзілі на водку і ласінскія паліцаі. Вечарамі бывалі вясёлыя. Ваня трошкі рындаў на гармоніку, а госці пілі і танчылі. Так было да часу, пакуль немцы не памянялі каменданта ў Ласінцы. Новы камендант пабачыў, што яго паліцыянты ходзяць п’яныя, загадаў арыштаваць Юзіка за гандаль алкаголем. Ноччу яго арыштавалі і след па ім прастыў. Чалавек прапаў, як камень у вадзе. Жыццё стала іншым.

Ваня надалей памагаў млынару, а таксама дзе-каму пашыў нейкую вопратку. Кравец з яго быў няважны, але ў той цяжкі час патрэбны быў кожны партач. Смяяліся часам людзі, што кравец пашыў не куртку «канадыйку», а «камедыйку», бо адзін рукаў быў задоўгі, а другі закароткі.

У Ласінцы Ваня дачакаў вызвалення ад гітлераўскіх захопнікаў.

У ліпені 1944 года ў летнім небе ляцелі хвалямі на захад доўгачаканыя самалёты з чырвонымі зоркамі і неслі свабоду беларусам і палякам. Немцы спыніць Чырвоную Армію ўжо не маглі. Гітлераўцаў чакаў „Kaputt”.

Бачыў Ваня, як савецкія салдаты вялі палонных немцаў. Нямецкія ваякі з сумнымі вачыма трымалі ў зубах акуркі. Яны ведалі, што вайна для іх закончылася. Ваня пацікавіўся і запытаўся ў салдата, ці хапае немцам курыць. Салдат іранічна адказаў: „Хватает. Как получит одну папироску, так целый день сосёт да сосёт».

Пасля вызвалення Ваня вярнуўся ў сваю спаленую вёску. Ажаніўся, збудаваў хатку, працаваў у сельскай гаспадарцы.

Ваня многа піў і курыў. Калі быў п’яным, то адчуваў сябе «героем», пэўна таму, што пабіў п’янага немца.

У XXI стагоддзі вёска абезлюдзела. На маёй вясковай вуліцы ніхто не спявае. Святам не пачуеш ні цвярозых, ні п’яных спеваў. Вясковы сум з кожным годам нарастае. Дзе няма людзей, там няма весялосці.

# Галады былі беднай вёскай

Размова з **Янам БАГІНСКІМ**, народжаным у 1930 годзе ў Галадах, зараз пенсіянерам, пражываючым у Ольштыне.



**— Як Вы запамяталі сваё дзяцінства? Чым гулялі?**

— Я ўдзячны Вам за гэтае пытанне, бо часам так добра паўспамінаць даўнія падзеі з дзіцячых гадоў. Нарадзіўся я ў Галадах, было нас пяцёра, на жаль, зараз пры жыцці астаўся толькі я.

Аж цяжка сёння паверыць, што ў маленькай аднапакаёвай хаціне ўсе мы вываваліся. Брат Ілья выехаў з Галадоў у Шчэцін — загінуў трагічна ў порце. Сястра Аня трапіла ў Беласток, Марыся выйшла замуж у Галадах. Я выехаў найперш у Лапы, пасля ў ЗША, а зараз жыву ў Ольштыне. Бацька памёр 6 мая 1985 года. Мама жыла ў Ані ў Беластоку, памерла 20 сакавіка 1989 года. Брат Аркадзій жыў адзінока, памёр у кастрычніку 1994 года. А хатку некаму прадалі.

Мой дзіцячы свет быў абмежаваны да атачэння нашага сямейнага дома, найбліжэйшых суседзяў. Далей — гэта быў канец свету.

Жылося ў згодзе з законамі прыроды і ўсё ўспрымалася як дадзеную Богам рэчаіснасць. Уставалі з усходам сонца і лягалі спаць з яго заходам. Поры года вызначалі дыяпазон заняткаў. Не было ніякага бунту, нянавісці. Багацейшы жыў лепш, бяднейшы горш. Бацька Павел часта паўтараў: „Нарадзіўся мужыком і мужыком астанешся. І не будзеш багацейшы, бо тое, што маю, трэба будзе з часам падзяліць паміж вас, даць штосьці кожнаму дзіцяці”. Іншай працы не было, хіба што ішлося несяць за парабка. І такое было — беднае, ціхае і спакойнае — наша вясковае жыццё.

Працуючы ў 1988 годзе на начной змене дзесяць гадзін у суткі ў рэстаране ў амерыканскім Ірвінгтан (плацілі тады 3,75 долара за гадзіну), часта перадумваў я сваё жыццё. Выглядала гэта так, быццам зайшоў у кіно, зашыўся ў нейкі куток і ўжывую аглядаў сваё жыццё нанава. Свой незапісаны фільм аглядаў я так кожную ноч, працуючы на мыйцы.

Галады былі беднай вёскай. Калісь увесну, у час разводдзя цяжка было пераехаць фурманкай цераз вёску. Насупраць нашага панадворка было балота. У нас і ў суседзяў былі сажалкі. Ранняй вясною і восенню вада залівала вясковы пастаўнік, так што зімою была там коўзанка. Прыязджалі да нас нават хлопцы з Бельска. Яны каталіся на сапраўдных каньках, фабрычных, а мы на каньках свайго вырабу, выструганых з палена. У прынцыпе быў адзін канёк на каторайсь назе. На другую нагу закладалі г.зв. храпку — кусок палена з выстаючымі цвікамі для адпіхання і набірання адпаведнай скорасці.

Перад Руздвом старэйшыя хлопцы заўсёды рабілі карусель на лёдзе, званую крўцёлкай. Убівалі тоўстую палю аж да зямлі, на яе накладалі кола ад воза, да кола мацавалі жэрдку. На канцы жэрдкі прывязвалі малыя саначкі. Саначкі набіралі такой скорасці, што аж кружыла ў галаве і станавілася млосна. Здаралася і так, што слабы лёд ламаўся пад нагамі, ніхто, аднак, не бег сушыцца дадому. Сушыліся ў нас, а я з братам Ільём сушыліся ў суседзяў.

Зімою лёду, а летам вады ў Галадах не бракавала. Часта задумваюся, чаму вёска не разбудоўвалася на ўсход, у напрамку Гайнаўкі, дзе было суха і стабільна, усе затое пхаліся на захад, пад лес, дзе было мокрае балота.

**— У Галадах была свая школа. Як выглядала навука і далейшая адукацыя вясковай моладзі?**

— Калісь у нашай вёсцы былі школа, малачарня і пошта. Палiквідавалі, асталася толькі пошта. У школу, у класы III-IV хадзіў я ў Шчыты-Дзенцялова (гэта наш прыход), пасля ў класы V-VII хадзіў у школу ў Орлю.

Школу ў Галадах пабудавалі яшчэ пры цары. Мой бацька напісаў у сваіх успамінах, што ў 1910 годзе хадзіў там у першы клас. Я ў першы клас пайшоў у 1938 годзе. У школе быў толькі адзін настаўнік на чатыры класы. Не ўсе вучні мелі сшыткі. Я меў толькі чорную таблiцу ў драўляных рамках, на якой пісаў грыфелем.

У чатырохкласную школу ў Галадах хадзілі сем гадоў. Былі класы I, II, IIIa, IIIb, IVa, IVb і IVc. Для кожнага класа былі іншыя падручнікі. Аднак нават найбольш здольныя вучні не мелі магчымасцей дастацца ў гімназію. Лепш было пасля другога класа дастацца ў прыхадскую школу, дзе былі V, VI і VII класы. Адтуль лягчэй было дастацца ў гімназію і вучыцца далей, штудзіраваць. Бацькам не было па кішэні пасляць дзяцей у прыхадскую школу — не было чым даязджаць, а на інтэрнат ці прыватны пансіён таксама не было ў нікога грошай. З вялікай вёскі Галады (больш ста дамоў) ніхто не меў сярэдняй адукацыі. Многія не канчалі нават класаў IVb і IVc, а нашы дзяды амаль усе былі непісьменнымі.

Было шмат школ у маім жыцці, але тая першая, у Галадах, назаўсёды асталася ў маёй памяці. У школе дбалі пра гігіену. Два разы ў тыдзень дзяўчаты са старэйшых класаў правяралі чыстату ў першакласнікаў — кантралявалі рукі, ногі — хадзілі басанож, вушы і галаву — ці няма вошай. Кожная маці раніцай, перад выхадам у школу, часала валасы густым грэбенем — вошы спадалі, але гніды аставаліся. Адзіным спосабам пазбыцца іх было іскание і раздушванне гнід ногцямі.

За непаслухмянасць і выбрыкі настаўнік круціў за вушы або лупіў лінейкай па далонях, а ў дадатак бацька дома дадаваў раменьчыкам. Настаўнік меў аўтарытэт, усе яго баяліся і шанавалі; побач бацюшкі быў другім кумірам у вёсцы, заўсёды меў рацыю.

**— Пачыналі Вы навуку напярэдадні Другой сусветнай вайны. Як той час адчувалася ў школе, у вёсцы?**

— Людзі ў вёсцы, асабліва тыя, што слухалі радыё — у Галадах радыё на крышталік меў Нічыпар — штораз часцей гаварылі пра надыходзячую вайну з немцамі. Улады ў рамках нарыхтоўкі правялі перапіс табару, што быў у вёсцы.

Наша школа, разам з іншымі школамі Арлянскай гміны, купіла станковы кулямёт у падарунку войску. (Аб гэтым згадваў таксама Ян Гаворка, 1931 года нараджэння з Кашалёў, „Ніва” ад 04.08.2019 г.)
У Шчытах было вялікае мерапрыемства — спартыўныя спаборніцтвы, бег у мяшках, стральба з лука... На стале, накрытым белым абрусам, стаяў навюткі кулямёт на трох ножках. Быў войт гміны, настаўнік, солтысы. Былі прамовы. Быў паручнік Войска Польскага, якому ўрачыста перадалі той кулямёт.

Паручнік дзякаваў школам, вучням, усяму грамадству. Запэўніваў, што Польшча ёсць моцная і згуртаваная, доказам чаму меў быць куплены кулямёт. Кулямёт меў таксама сведчыць пра грамадскую падтрымку войску, якое прыкладзе ўсе намаганні, каб абараніць нашу краіну, нашу радзіму — „nie oddamy guzika”. Пасля выступлення паручніка раздаліся гучныя воплескі. Аднак тое, што адбылося ў Шчытах, сведчыла, што вайна вісіць на валаску.

Жыхары Галадоў, якія слухалі радыё ў Нічыпара, казалі, што Польшча не любіць бальшавікоў і не хоча іхняй дапамогі. Палякі лічылі, што калі ў 1920 годзе адолелі бальшавікоў, то і цяпер справяцца з немцамі. Тым болей, што Польшча мела магутных саюзнікаў — Англію і Францыю.

У верасні 1939 года забралі з нашай вёскі лепшых коней. Некаторых прызвалі ў войска. У Чаромсе немцы збамбілі гэты абоз, учыніўся хаос, нашы вяскоўцы вярнуліся ў Галады. Мы схаваліся ў пабудаванае бацькам сховішча, замаскіраванае за стадолай пад вішнямі. Немцы паехалі на ўсход і было спакойна, не было ніякай улады.

У Галады прыехала крыху нямецкага войска — конны абоз. Сваю кухню і штаб мелі ў суседа — у Кундратавых. Але ваду бралі з нашай студні, была найлепшая; каля калодзежа стаяў вартаўнік. Людзі бралі з яе ваду, але не сваімі рукамі — ваду выцягаў вартаўнік. Неўзабаве немцы сталі гаварыць, што адступяць і на іх месца прыйдуць рускія. Неўзабаве выехалі і мы зноў асталіся без улады.

**— Ці Вы запамяталі жыдоў?**

— У час нямецкай акупацыі пасвіў я карову на агульнай пашы, г.зв. супольнасці ў заходняй частцы Галадоў. Разам з намі статак кароў з вёскі Вулька пасвіла двое жыдоўскіх дзяцей, брат з сястрою. Былі ветлівыя і ўдзячныя, што мы не цураемся іх і дружым. Хлапец малы, чарнявы — адразу было відаць, што гэта тыповы жыдок з арлянскага гета. Быў вельмі ветлівы і ахвотны дапамагаць, называўся Моська. Часта мы выручаліся ім — ахвотна ўвахозіў у ваду і выганяў нашых кароў. Ягоная сястра была вельмі прыгожая, чарнявая з кручанымі валасамі і лёгка арліным носам. Больш нагадвала яна цыганку, чым жыдоўку — называлася Рыўка. Абое насілі на вопратках жоўтыя шасціканечныя зоркі. Мы часта гаварылі ім: „Навошта вы іх носіце, то ж вас тут ніхто не бачыць”. Яны адказвалі, што так ім загадалі немцы. З часам пачалі расказваць, што неўзабаве маюць выехаць у нейкі лагер. (Паводле архіўных успамінаў арлянскага рабіна Элі Гальперна, запісаных у 1943 годзе ў беластоцкім гета, немцы сказалі жыдам, што вывезуць іх на Чорнае мора або на Каўказ на працу.) Мы намаўлялі іх, каб прыхаваліся і асталіся з намі. Мы дамовіліся з бацькамі, што зможам іх перахаваць, прапанавалі астацца, але надарэмна. Рыўка сказала: „Я мушу да сваіх, такі ўжо жыдоў лёс”.

Праз нейкі час прыехаў фурманкай бацька забраць іх у арлянскае гета. Ці ведалі яны, што іх чакае? Рыўка вельмі плакала, развітваючыся з намі, моцна прытульвалася, дзякавала за дружбу. Помню яе заплаканыя і сумныя, але прыгожыя вочы. Бацька пасадзіў іх на фурманку і яны ад'ехалі. І ніколі больш нічога пра іх я не чуў.

У Галадах жыд меў сваю невялікую краму. Каб мець крыху грошай, хлопцы падкрадалі ў бацькоў жыта, пшаніцу, ячмень і заносілі да жыда, і мелі грошы. Жыд ніколі не выдаў хто і што прынёс. Замацавалася пагаворка: „Занясі штосьці да жыда, то як камень у ваду”. На вёсцы курыца часам знесла яйка ў зеллі і знаходзілася. Я сам, калі знайшоў яйка ў зеллі, то насіў жыду і атрымліваў за адно яйка адзін цукерак.

Калі я хадзіў у арлянскую школу, то здаралася заходзіць у жыдоўскую бажніцу — прыгожы вялікі будынак, усярэдзіне прыгожа распісаны. Людзі гаварылі, што будынак паставілі пры пнаванні царыцы Кацярыны II. Жыды звярнуліся з просьбай пра дазвол, а яна запатрабавала сто рублёў па адной капейцы, сабраных за адну ноч.

Было жыдоўскае свята Ханука (свята святла, лістапад-снежань). Жыды ішлі раніцай на раку Арлянку і кожны мусіў пабачыць свой адбітак у вадзе, а калі не пабачыў, то гэта быў знак, што чорт забраў душу і ў той жа год мусіць памерці.

На свята Пурым (радаснае жыдоўскае свята, люты-сакавік) жыды мусілі знайсці хрысціяніна, гэтак званага гомана (гоман наканаваў гібель усіх жыдоў) і ў бажніцы кожны жыд адпіхаў ад сябе гомана (у Орлі таксама плявалі на яго); ім пасля людзі ганьбавалі, але жыды вельмі добра плацілі гоману. Таму некаторыя хрысціяне прыходзілі ў бажніцу пераапранутымі і калі жыды маліліся, выпускалі варон або галубоў. Птушкі ляцелі на святло свечак і па сцяне падалі на жыдоў; жыды ўзнімалі „гевалт”.

Гандаль поўнасцю апанавалі жыды. Жыд быў ветлівы, ніколі не гневаўся, умеў пераканаць пакупніка. Жыды займаліся таксама раз'язным гандлем. Ездзілі па вёсках фурманкамі і за шматы давалі прадметы хатняга ўжытку, м.інш. керамічныя гаршкі. За парадай таксама хадзілі да жыдоў, бо яны былі лепш адукаваныя. Лекары ці адвакаты былі пераважна жыдамі. Калі трэба было аформіць нейкую справу, то хадзілі да жыда. Пазычыць грошы — таксама да жыда.

Мой бацька ехаў у чацвер у Бельск на рынак, каб нешта прадаць на аплату падаткаў. Жыды дамаўляліся паміж сабою, каб прапанаваць вельмі нізкія цэны. Бацька мусіў танна прадаваць і з-за гэтага наракаў на жыдоў.

Пасля рынку ў Бельску цераз нашу вёску Галады ехалі арлянскія жыды. У Бельск везлі яны тавары, выробленыя ў Орлі або прывезеныя з-за мяжы. Назад вярталіся загружаныя мукою, збожжам, на вазах таўкліся свінні, побач фурманак ішлі коні, каровы. Не ведаю, чаму мы не любілі жыдоў. Людзі былі перакананыя, што жыд заўсёды мусіць ашукаць нашага брата. Дзяцей страшылі жыдамі, загадвалі хавацца, уцякаць перад імі, бо забяруць на мацу.

Аднойчы, пасля рынку, вярталася з Бельска ў Орлю шмат жыдоў. На апошніх фурманках ехалі тыя, якіх тавар паехаў ужо ў самым пачатку, на першых вазах. Шмат рослых і дужых хлопцаў пахаваліся за плотам, у хляўку і сянях нашай хаты. Нас, малых дзяцей, пасадзілі ў рове і сказалі, што маем рабіць, калі будзе праязджаць апошняя фурманка з жыдамі. Калі той воз над'ехаў, кожны з нас знімаў шапку і пачынаў голасна лічыць жыдоў на фурманцы. Паказвалі на жыда пальцам, голасна казалі „раз” і ўкладвалі палец у шапку; потым паказвалі на чарговага, казалі „два” і зноў укладвалі палец у шапку. Калі ўжо палічылі ўсіх, плявалі ў шапкі, „замыкалі” іх, клалі на калені або на зямлю і моцна таўклі па тых шапках з „жыдамі”. Пасля такога прывітання жыды саскоквалі з фурманкі і беглі нас біць. Гэтага чакалі схаваныя хлопцы. З кімі ў руках выбягалі да жыдоў з закідам, што яны, старыя гандляры, б'юць нашых малых дзяцей, якія нічога не зрабілі, толькі гулялі ў лічылкі. Жыды тады хутка ўскоквалі на воз і ад'язджалі.

Не ведаю, хто і чаму вырабляў жыдам такія дрэнныя рэпутацыі. То ж жыда ніхто ніколі не бачыў п'яным, не было таксама між іх зладзеяў.

(працяг будзе)

Міхал МІНЦЭВІЧ

# СВЯТА ДУШЫ

Трымаю ў руках 51-ы нумар „Нівы" і не магу нарадавацца (з дня нашай апошняй „сустрэчы" прайшлі амаль два дзесяцігоддзі).

Гартаючы старонкі выдання, бачу знаёмыя да болю твары. Дарагія сэрцу празвішчы, па-свойму цікавыя допісы. І ўсё так блізка, так дорага, так прыемна, бо гэта звесткі з малой радзімы (месца майго нараджэння — вёска Вычулкі, што каля Клюковіч, на самай мяжы з Беларуссю).

З першай старонкі „Нівы" з заўсёднай прыемнай усмешкай на твары глядзіць на мяне стары знаёмы Мікола Ваўранюк. Крыху пасталеў (даўно не бачыліся), але выглядае ўпэўнена, з доляй аптымізму. Так трымаць і надалей! Вітаю!

Віктар Сазонаў... Асабіста не знаёма з ім, але публіцыстыцы ягонай веру: заўсёды з цікавасцю ўспрымаю. А кніга пра наша прыгранічнае жыццё-быццё — супер! Прачытала на адным дыханні. Шчыра дзякую!

Яўген Вапа... Ведаю асабіста, неаднойчы сустракаліся. Паважаю за арганізатарскія здольнасці, за высокі прафесіяналізм, за адданасць справе, за неабыякавасць да лёсаў пакінутых у адзіноце нямоглых старых, да жыцця наогул.

Люда Грыгарук... Вельмі ўзрадавалася за яе, бо добра ведаю няўрымслівы характар гэтай настаўніцы ў адносінах да працы, якой аддае ўсю цеплыню свайго сэрца. Паважаю за апантанасць беларускасцю, за педагагічны талент, за шчодрасць душы. Вялікі дзякуй, шаноўная Людміла, за такія мілыя сэрцу маці словы ўдзячнасці маёй дачушцы Наталлі Герасімюк. Жыві доўга, Людачка, і працягвай шчодра аддаваць свае веды вучням, як ты заўсёды гэта робіш!

Міра Лукша ўвайшла ў маё жыццё дзякуючы імпрэзам, якія ладзіліся ў Гайнаўцы: прэзентацыі навінак літаратуры, мастацкія выставы, конкурсы і абмеркаванні. Высока цаню яе творчасць, не аднойчы „Ніва" друкавала мае водгукі на яе зборнікі прозы. З задавальненнем прачытала ўсё, напісанае ёю, а падораныя мне з аўтографамі кнігі час ад часу перачытваю, кожны раз адкрываючы сабе нешта новае і цікавае. Дзякуй табе, дарагая, за памяць, за шчодрасць душы, за вернасць слову. Да дробязей помню нашы колішнія спатканні. Прагну сустрэчы!


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
Канцэрт жыцця ў Белавежы

Асабістае знаёмства з Уладзімірам Сідаруком у хаце майго дзядзькі Аляксандра Сахарчука ў Чаромсе пакінула ў маёй душы цёплыя ўспаміны аб гэтым неардынарным чалавеку. Планавалі сустрэцца ў рэдакцыі „Нівы", але з-за траўмы нагі працяглы час магла хадзіць толькі ў шкарпэтках. Папярэдзіць спадара Уладзіміра аб сваім непрыходзе, на жаль, не атрымалася (не дазванілася). Прашу прабачэння, хоць і з вялікім спазненнем.

Мой колішні апанент Мікалай Панфілюк найперш зацікавіў мяне сваёй манерай пісьма: як думае — так і выкладае па-свойму думкі на старонках „Нівы". Спачатку мяне гэта вельмі нервавала, але потым зразумела: мае права на ўласнае меркаванне. А ўжо справа чытачоў — прымаць за выснову яго выказванні альбо не. Прыцягвае ўвагу яго апантанасць, вернасць газеце і неабыякавасць да лёсу сваёй вёскі, да людскіх лёсаў.

Не магу не адзначыць таленавітую журналістку, знаўцу дзіцячых душ Ганну Кандрацюк. Нязменная вядучая дзіцячай старонкі „Зорка" робіць вельмі карысную і патрэбную справу, заахвочваючы дзетак да творчасці, выхоўваючы ў іх любоў да беларускага слова, абуджаючы тым самым задаткі таленту з маленства.

Нізкі паклон Вам, шаноўная спадарыня Ганна, за такую патрэбную працу.

Віншую са святамі ўвесь калектыў рэдакцыі „Нівы". Плёну вам, надалей, творчых дасягненняў, новых чытачоў і даўгалецця.

З павагай і любоўю
**Тамара Лаўранчук,** г. Высокае

**PS.** Прачытаўшы ад пачатку да канца ўвесь 51-ы нумар „Нівы" адчула ў душы вялікую асалоду ад „спаткання" з даўнімі знаёмымі, з любімым выданнем, у якім некалі працяглы час друкаваліся і мае допісы. Буду рада, калі прымеце ізноў мае разважанні і вынесеце іх на суд чытачоў. **Т. Л.**




Сёлета ў Беларусі пачаў рэалізоўвацца сацыяльны праект, які наўпрост звязаны з папулярызацыяй беларускай мовы. Праўда, займаецца ім не дзяржава, што было б натуральна, а кампанія мабільнай сувязі з аўстрыйскім капіталам „А1", забяспечваючы фінансаванне праекта. Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што гэтая фірма не ўпершыню пазіцыянуе сябе ў якасці неабыякавага да беларускай мовы бізнесу.

Гэтым разам яна, прасоўваючы, зразумела, свае рэкламныя інтарэсы, робіць стаўку на моладзь. Прычым на тых, хто яшчэ толькі рыхтуецца скончыць школу. Сярод іх кампанія шукае людзей, якія могуць прапанаваць нейкія ідэі, вартыя да ўвасаблення. Дадзены праект, што будзе цягнуцца каля паловы года, мае назву „Першыя" і пра яго ідзе гаворка на сайце **https://generation.a1.by.** «„Першыя" — конкурс ідэй, з дапамогай якіх можна змяніць навакольны свет, грамадства ці жыццё людзей да лепшага. У конкурсе могуць прыняць удзел вучні 9-х, 10-х і 11-х класаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі», — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта. Там жа адзначаецца, што 10 фіналістаў праекта стануць галоўнымі спікерамі маштабнай маладзёвай канферэнцыі TEDxYouth@Minsk і атрымаюць смартфоны iPhone Xs.

Так званыя крэатоны, на якіх маладзёны распавядаюць пра свае ідэі і з якіх абіраюць найбольш цікавыя, распачаліся з Віцебску. Наперадзе яшчэ шэраг буйных гарадоў беларускай краіны.

«Адной з мэт нашага конкурсу з'яўляецца прадстаўленне старшакласнікам з розных гарадоў Беларусі магчымасці адкрыць сваю ідэю вялікай колькасці людзей. Мы ўпэўнены, што тыя ідэі, якія ёсць зараз у хлопцаў і дзяўчат не толькі з Магілёўшчыны, а таксама з Віцебшчыны, Гродзеншчыны, дзе таксама адбудуцца нашы крэатоны, — вартыя распаўсюду», — распавёў у Магілёве журналістам начальнік аддзела карпаратыўных камунікацый „А1" Мікалай Брэдзелеў.

У Віцебску хлопцы і дзяўчаты генеравалі ідэі, датычныя музейнай справы, дызайну і архітэктуры, у Магілеве — інклюзіі. У Гродне тэмай абмеркавання мае стаць тэхналогія, а ў Гомелі — экалогія.

Арганізатары конкурсу так тлумачаць магчымы выбар удзельнікамі менавіта гэтых кірункаў. Экалогія — для тых, хто хоча вырашыць разнастайныя экалагічныя праблемы: ад лакальных да самых глабальных. Тэхналогіі — для тых, хто цікавіцца сучаснымі гаджэтамі, разумее, наколькі карыснымі яны могуць быць у штодзённым жыцці, і гатовы прапанаваць уласныя ідэі. Інклюзія — для тых, хто лічыць важным уключыць людзей з асаблівымі патрэбамі ў актыўнае грамадскае жыццё. А культурны кірунак (музейная справа, дызайн і архітэктура) — для тых, у каго ёсць ідэі, як папулярызаваць і зацікавіць грамадства ў беларускай культуры.

«Мы прапануем выступіць са сваёй ідэяй па адным з чатырох кірункаў, але не абмяжоўваем вас. Вы можаце прадставіць ідэю, якая закранае адразу некалькі кірункаў», — адзначаецца на сайце.

Кожны малады чалавек — хлопец ці дзяўчына, якія зацікавіліся магчымасцю паказаць сябе, павінны былі выбраць адзін з гэтых прапанаваных кірункаў, сфармуляваць па абраным кірунку сваю ідэю, апісаць яе і адказаць на пытанне: «Чаму твая ідэя павінна быць прадстаўлена на TEDxYouth@Minsk?». Ну і на заканчэнне прайсці рэгістрацыю на сайце.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара



## 90 гадоў з дня нараджэння
# Валянціна ТАРАСА

Беларускі паэт, публіцыст, перакладчык Валянцін Тарас нарадзіўся 9 лютага 1930 г. у Мінску. Яго бацька — вядомы мастак Яфім Тарас. У час Другой сусветнай вайны 13-гадовы Валянцін пайшоў у партызаны. Быў байцом атрада „За Савецкую Радзіму" брыгады імя Чкалава (Баранавіцкае партызанскае злучэнне). З канца 1944 г. працаваў шліфавальшчыкам у Беларускай рэспубліканскай літаграфіі ў Гродне і адначасна вучыўся ў вячэрняй школе рабочай моладзі.

У пачатку 1948 г. вярнуўся ў Мінск, працаваў рознарабочым на Мінскай бісквітнай фабрыцы, вучыўся ў вячэрняй школе. У 1955 г. скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Працаваў у рэдакцыі газеты „Звязда" (1955-1962), у 1964-1968 гг. быў рэдактарам аддзела прозы часопіса „Нёман".

У траўні 1968 г. Валянцін Тарас звольнены з працы „за антысавецкія размовы". Ён быў адным з асноўных фігурантаў так званай „справы Вакулоўскай" (пісьменніцы, на чыёй кватэры збіраліся літаратары, мастакі, журналісты, якія мелі крытычную пазіцыю да савецкага рэжыму). Цягам васьмі гадоў Тарас не друкаваўся ў БССР, не дазвалялася здымаць фільм паводле яго сцэнарыя, публіцыста не выпускалі за мяжу, нават да адшуканых пасля вайны блізкіх сваякоў. З тэлебачання была звольнена жонка Валянціна Тараса.

З пачаткам перабудовы Тарас найбольш працаваў у публіцыстыцы. Быў у Назіральнай радзе Беларускага Фонду Сораса, сябрам Назіральнай рады Беларускага Хельсінкскага Камітэта, з 1997 г. сябрам Беларускага ПЭН-Цэнтра, адзін са стваральнікаў Хартыі-97. Як паэт дэбютаваў вершамі ў 1948 годзе, пісаў на рускай і беларускай мовах. Аўтар некалькіх зборнікаў паэзіі і кніг аповесцей і апавяданняў. Выдаў мемуары „На выспе ўспамінаў" (2007).

Валянцін Тарас — аўтар літаратурна-драматычнай кампазіцыі і тэкстаў большасці песень для канцэртнай праграмы „Праз усю вайну" ансамбля «Песняры» (кампазітар Уладзімір Мулявін, 1984). Апавяданне „Незвычайная смерць" экранізавана на Кіеўскай кінастудыі імя Даўжэнкі (1974). На кінастудыі „Беларусьфільм" па яго сцэнарыях зняты дакументальныя стужкі „Жаўрукі ляцяць на Палессе" (1975), „Праз усю вайну" (на падставе аднайменнай праграмы „Песняроў", 1985), „Зорка Максіма" (кінаэсэ пра Максіма Багдановіча, 1980), „Наш Пімен" (да 70-годдзя Пімена Панчанкі), „Вяртанне ў першы снег" (пра Рыгора Барадуліна, 1985), некалькі мультыплікацыйных фільмаў. У 1974 г. на Беларускім тэлебачанні пастаўлена тэлевізійная п'еса „Не загасі свечку". Для тэатра імя Янкі Купалы пераклаў п'есы Іва Жаміяка „Месье Амількар" (пастаўлена ў 1983 г.) і „Дракон" Яўгена Шварца (пастаўлена ў 1988 г.).

У перакладах Валянціна Тараса на рускую мову выйшлі кнігі прозы розных аўтараў, апублікаваны асобныя пераклады паэзіі Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Уладзіміра Хадыкі, Рыгора Барадуліна, Міхася Стральцова. Лепшыя пераклады беларускай паэзіі змешчаны ў зборніку „Запах мёду" (1986). На беларускай мове выступаў у перыядычным друку (у газетах „Народная Воля", „Имя", „Белорусская газета", „Наша Ніва" і іншых, бюлетэні „Правы чалавека") як паэт, крытык і перакладчык з рускай мовы. Быў блізкім сябрам Васіля Быкава, апекаваўся ягонай спадчынай.

Памёр Валянцін Тарас 13 лютага 2009 года ў Мінску. Пахаваны на Паўночных могілках сталіцы.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Гэты лес ужо не той

Час няспынна бяжыць і многае вакол нас змяняецца. Найбольш прыкметна змяняецца, між іншым, мая родная вёска Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета, рака Нараўка і яе прыток Баброўка, навакольныя лясы, у тым ліку лясны абшар названы Плянтай. Не памянялася сетка тутэйшых дарог.

Плянта гэта сасновы лес з ядлоўцам. Ліставых дрэў бяроз, асін і дубоў няшмат. Я памятаю яе яшчэ з высокімі стройнымі елкамі і тоўстымі соснамі. Прыгожыя галінастыя сосны ў нязменным зялёным убранні раслі на пясчаных узгорках і пры дарозе, па якой мы ўязджалі ў лес едучы з вёскі Новае Ляўкова. Елкі з вялікімі шышкамі на верхніх галінах раслі на ўзгорку пры дарозе, якая вядзе да сядзіб Яна і Уладзіміра Скепкаў. Вялікія сосны раслі пераважна на пясчана-жвіровых узвышшах. Каля Плянты ўецца з чыстай празрыстай вадой рэчка Баброўка тады схаваная ў вярбовых кустах. У адным месцы былі сама менш шэсцьдзясят гадоў таму і зараз ёсць прыгожыя і для мяне таямнічыя вольхі. Паўвека таму было ў рацэ многа рыбы — плотак, акунёў, шчупакоў, мянькоў і ўюноў ды ракаў.

Плянта — гэта быў свайго часу вялікі і густы лес з урочышчамі Лісіныя норы, Конскія могілкі і Макаровэ (я з дзяцінства помню малую драўляную хатку ды сям'ю старэнькага Макара Марчука і яго самога). Той ранейшы лес быў даволі густы ды ў некаторых месцах цёмны і таму таямнічы. У пахмурныя дні я пару разоў у ім блудзіў.

Вяліся ў Плянце лісы, зайцы, вавёркі, вожыкі і іншыя звяркі. А вужоў колькі было. Птушак лясных, між іншым, зязюль, варон, соек, сарок, берасцянак і дзятлаў было многа. У гушчарах старых дрэў хаваліся ўдзень совы.

Быў гэта лес грыбны, можна сказаць, баравіковы. Вясной збіралі тут першыя грыбы — карычневыя з глыбокімі маршчынамі смаржкі, летам жоўтыя лісічкі і самыя жаданыя крамяныя баравікі (часам яны мне і цяпер прысніцца) ды краснюкі, а восенню зялёнкі, падзялёнкі, рыжыкі і каўпачкі, валовыя языкі і кані. У Плянту хадзілі па ягады-чарніцы, брусніцы і журавіны. Тут вясной цвілі сінія пралескі, белая скароздра (zawilce) ды незабыўныя мне фіялетавыя сончыкі (sasanki). Пад восень зацвіталі верасы.

Зараз травою пазарасталі дарогі і сцяжынкі, па якіх ганялі кароў на пашу і ездзілі вазамі па сена на сенажаці. У лесе высеклі самыя прыгожыя дрэвы. Няма ў ім высокіх елак, тоўстых старых дрэў (шмат гадоў таму былі яны нашымі найлепшымі арыенцірамі ў лесе, калі мы з братам пасвілі тут кароў). Не цвітуць больш сончыкі. Лес ужо стаў не той, якім быў. Ранейшы стары лес астанецца назаўсёды ў маёй памяці. **(яц)**

## Зубры выходзяць з лесу

Маем лёгкую зіму, цёплае надвор'е, а дзікія звяры і так горнуцца да чалавечага жылля. Зубры палохаюць жыхароў на калёніях вёсак Новае Ляўкова і Міклашэва Нараўчанскай гміны. Каля Міклашэва яны выходзяць з лесу на поле, дзе зараз зялёная сочная рунь. Стаяць абагорі і стагі з сенам пасярод лугоў над чыстай рэчкай Баброўкай і зубры іх крыху абскублі, але ж рунь куды смачнейшая. Апрача таго ёсць таксама свежая трава на месцы скошанай атавы. Гэта не тое, што сухое сена. І яна даступная, не прыкрыта снегавым пакрывалам, бо ж гэтай зімы не было вялікага снегу і марозу.

Зубрыныя чародкі спакойна і няспешна вандруюць ад Лазовага і Новага Ляўкова да Міклашэва па прыгожай даліне Баброўкі і далей да Альхоўкі, Асовага і Семяноўкі. Значную частку гэтай неабжытай лугавой і ляснай прасторы ў нас здаўна называюць „Дзікім захадам". Тут то глуш, раздолле і свабода для ўсёй ляснай жывёлы.

Зараз з лесу да ціхай вёскі Плянта пачалі часцей прыходзіць ласі, алені, сарны ды ізноў дзікі. Тут ужо шмат пустых драўляных будынкаў, у тым ліку і хат, павалены старых драўляных платоў пры самым лесе ды запушчаныя садочкі і панадворкі. Цяпер сюды заходзіць дзікая рагатая жывёла. Мо таму, бо ў плянтаўскім наваколлі паявіліся ваўкі? Драпежнікі прыйшлі, вядома, услед за ляснай звярынай. І яны на іх будуць паляваць. Зуброў не чапаюць. Яны моцныя, чуткія і ўвесь час трымаюцца статкамі.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Чым нас пацешаць?

У траўні чакаюць нас выбары прэзідэнта Рэчы Паспалітай. Ужо зараз вядома, што кожная палітычная групоўка будзе прапанаваць свайго кандыдата. Не стану раздумваць над паасобнымі кандыдатурамі, бо і так не адгадаю пераможцу. Адно магу прадвяшчаць, што змаганні будуць заўзятыя. Па маёй думцы, пераможа той, хто зманіць суверэна кашай нябеснай і... абяцаннямі. А з мінулага вядома, што майстрам па «маніпуляцыйных хітрыках» лічыцца вядучая каманда Права і Справядлівасці. Перамаглі яны на еўрасаюзных выбарах, абдурылі сялян высокімі еўрасаюзнымі даплатамі за павышэнне жывёлагадоўлі, пенсіянераў зманілі трынаццатай пенсіяй, затым правяць другі тэрмін. Што гэтым разам прыдумаюць? Гаворка ідзе, разумееца, аб ранейшых пенсіях для ўсіх, г.зн. жанчынам пасля 35 гадоў працы, мужчынам з 40-гадовым працоўным стажам. Над гэтай прапановай ПіС схіляўся ў 2015 годзе, але канчаткова прапанова не апынулася ў парламенце. Гэтым разам мае яна быць сцяганосным лозунгам прэзідэнта Анджэя Дуды на сёлетніх прэзідэнцкіх выбарах. Але ёсць невялічкі хіб. Ранейшыя пенсіі зменшвалі б на 9% пенсію. Іншай прапановай ПіСу з'яўляецца пенсія без падаходнага падатку. Такі погляд прад'явіў ужо старшыня ПСЛ Уладыслаў Касіняк-Камыш. «Гэта была б сістэмная развязка, — гаварыў ён. — Пенсіянеру трапіў бы жывы грош у кашалёк, чатырыста злотых штомесячна». «Права і справядлівасць не адказваецца ад праекта, — канстатавала намеснік парламенцкай сацыяльнай камісіі Крыстына Врублеўская, — адно шукаем грошай». Якімі абяцанкамі канчаткова зманіць народ Права і справядлівасць на прэзідэнцкіх выбарах аднаму Усявышняму зараз толькі вядома.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Прыгожыя лавачкі на вуліцах

Зараз многія жыхары Гайнаўкі, а перш-наперш у пенсіянерскім узросце, ходзяць з малымі дзяцьмі, а то і некаторыя з сабачкамі на шпацыр у гарадскія скверыкі, на лавачкі ў мініпарку. У Гайнаўцы лавачак шмат. Пра гэта паклапаціліся гарадскія ўлады. Некаторыя лавачкі знаходзяцца пад навесамі. Тады і ў дождж ёсць дзе схавацца.

Прыгожыя драўляныя аранжавага і карычневага колеру лавачкі стаяць на вуліцах 3 Мая, Пілсудскага, Батория, кс. Верабея, Ліпавай, Ракавецкага і Белавежскай. На іх можна пасядзець таксама ля скрыжавання з кругавой развязкай вуліц 3 Мая, Варшаўскай, Паркавай і кс. Верабея.

Лавачкамі карыстаюць перш-наперш старэйшыя людзі. Яны, пажылыя людзі, нават ідучы хутка стамляюцца ды прысядуць, каб хаця крыху адпачыць. Лавачкі на вуліцах патрэбныя. На іх ахвотныя пасядзець малыя дзеці і моладзь. На вольнай лавачцы можна паставіць цяжкія рукзакі, сумкі і пакеты з пакупкамі.

**(яц)**

## Адгадаванка

**1.** невялікі звярок з іголкамі на спіне і баках, **2.** разгалінаванне дыхальнага горла, што праводзіць паветра ў лёгкія, **3.** ружа, гваздзіка або цюльпан, **4.** кармавая расліна сямейства бабовых у... вікарыя, **5.** праём у сцяне з шыбамі, **6.** партнёрка свата, **7.** частка тулава ад шыі да рукі, **8.** установа на граніцы, якая збірае пошліны, **9.** сярэдневяковы ваяка, **10.** жарабя трохгадовага ўзросту, трацiна.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | | | | 3 | |
| | | | 4 | | | | | |
| | 5 | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| 6 | | | | | | | | 7 |
| 8 | | | | | | 9 | | 10 |

**Адказ на адгаданку з 2 нумара**

Хамут, Бураўкін, Гаіч, аорта, акула, шум, асецінец, Кіеў, кадзіла, невад.

Рашэнне: **Багатаму і чорт у кашу масла кідае**.

## 09.02 — 15.02

**(22.03. — 20.04.)** Афармляй усё, што патрабуе энергіі. 9-10.02. добры момант на рашэнне аб працы. Да 9.02. справішся з недаробкамі. Някепскі настрой. Свабодны час прызнач на падарожжы. Настаўся на супрацоўніцтва. У пачуццях солодка, але бурліва. Хтосьці хоча зашкодзіць тваім інтарэсам. Авацца могуць старыя праблемы з дыханнем або кровазваротам.

**(21.04. — 21.05.)** 12-15.02. можаш зазнаць «ціхіх дзён» у хаце. Блізкія могуць не захацець танцаваць так, як ім зайграеш. На працы можа наступіць крызіс (8-10.02.), які не будзе датычыць цябе, але можа непатрэбна выбіць з рытму. Штодзень шпацыруй. Насі адзенне, асабліва бялізну, з натуральных тканін (пільнуй асабліва свой мачавы пухір). 11-14.02. не парвіся на штосьці, што пяройдзе твае магчымасці або чаканні.

**(22.05. — 22.06.)** 8-10.02. здабудзеш штосьці, што да гэтай пары было па-за тваім абсягам. Натхненне спакоем духа і радасцю. На працы не спавальняй тэмпу, а твой рэйтынг памаленьку пойдзе ўверх. Шукаючы працу, будзь пільным, не спазняйся, не праваронь магчымасцей. Шмат спраў убачыш у новым святле. Не вер у балбатню.

**(23.06. — 23.07.)** 8-10.02. спадзявайся мілага візіту. Але старыя жалі выпаўзуць 12-16.02. Узмоцняцца сямейныя сувязі. 8-10.02. цяжка будзе заснуць у час поўні; увечары ідзі на шпацыр, не лыгай таблетак. Мноства занятак. Трымайся плана, спраўся з самым важным. У „валянцінкі" чакае цябе мілая неспадзяванка. Шукаючы новых вырашэнняў, знойдзеш штосьці, што цябе проста захопіць. Калі ў цябе ёсць саюзнік, не мусіш нічога баяцца.

**(24.07. — 23.08.)** 8-10.02. маеш гарантаваныя любоўныя і кампанейскія поспехі. Вакол цябе многа сімпатычных людзей. Але 11-16.02. сітуацыі, на якія ты дагэтуль глядзеў праз пальцы, стануць табе мяшаць. Старайся цяпер падпісваць важныя дамовы. Можаш памяняць свой воблік. Кантралюй дыету. Еж усякую зяляніну. Не прастынь.

**(24.08. — 23.09.)** Някепская форма. Вельмі рамантычна. У старых парах таксама закіпіць ад жарсцей. Найбольш ачараваныя будуць Дзевы з І дэкады. Можа цябе заспець каханне 6-10 лютага; падумаеш, што сустрэў ідэал! Не плануй аднак адразу будучыні! 8-10.02. больш пабудзь з блізкімі, тэлефануй ім, асабліва 8-10. Поўня 8-10.02. не паўплывае добра на твае нервы, будзеш раздражнены. Пільнуй свайго горла.

**(24.09. — 23.10.)** Поўня 8-10.02. падыме цябе на пік папулярнасці! Спачатку будзеш крыху меланхалічны, але гэта міне. На рабоце працуй цяжка і на кожным кроку паказвай свой прафесіяналізм. Заробкі папраўляцца, але можаш хутка ўсё распусціць. Але можаш у бядзе разлічваць на сям'ю. У выбарах у каханні не кальюкулюй. Прыкрыя неспадзяванкі і здарэнні лёсу могуць чакаць Шалі з І дэкады. Сядзь на дыету, але не разлічвай на нейкія відныя эфекты.

**(24.10. — 22.11.)** Калі ведаеш, чаго хочаш, тое здабудзеш. Зрэалізуеш большасць сваіх амбіцый. Сілы хопіць. Прытуляйся. Вельмі дбай аб тое, каб не прастыць і не нахапаць вірусаў; справішся з імі. Стрэсы з 8-10.02. адаб'юцца табе на страваваьным шляху — асабліва на кішках і страўніку. Ідучы ў бальніцу да блізкіх не навалачы туды заразы і не вынесі яе адтуль. З 12 (аж да 28.02.) будзеш карыстацца несвядомымі ведамі і інтуіцыяй.

**(23.11. — 22.12.)** З 13.02. (аж да 27.02.) шмат змен на лепшае паможа табе ўвесці секстыль Юпітара з Нептунам. Не правядзі Дня Закаханых адзін, выберыся куды-небудзь з сябрамі. Не паддавайся стрэсам. Свaёй дробязнасцю не давядзі кагосьці да шалу!

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш адважны, творчы і ўдачлівы. Часам нервовы і нецярплівы, але супакоішся. Кан'юнкцыя Юпітара падыме цябе на пік! Сустракаешся з кімсьці нядаўна? — не прымушай яго да дэкларацый. На працы не нарабі сабе ворагаў, старайся для калег быць інспіратарам і матыватарам. Можаш крышку падзарабіць. Але не натужвайся лішне на рабоце, бо сядзе табе пазваночнік, страваванне і спіна. Калі ў судзе змагаешся за нейкія грошы, твае аргументы будуць выслуханы. Нервам паможа мастацтва і медытацыя. Але 12-16.02. можаш сярод радні праславіцца... чорнай авечкай!

**(21.01. — 19.02.)** Някепская форма. Фізічны высілак — як лякарства. 8-10.02. будзеш зоркай на розных імпрэзах і сустрэчах. Мноства задум, як добра папраўляць умовы сваёй работы. Усё ж штосьці «кнуюць» зоркі, а пасля 15.02. яшчэ да іх далучыцца і Марс. Калі шукаеш кахання, звярні ўвагу на супрацоўнікаў, выйдзі з ініцыятывай. У інтарэсах памогуць табе шустрасць, кемлівасць і ўмеласць трапнай ацэнкі сітуацыі.

**(20.02. — 21.03.)** 8-10.02. будзеш раздражнены і сфрустраваны без прычыны. А інтарэсы пойдуць як па масле, прынясуць хуткі прыбытак. Але з грашыма (іх будзе дастаткова) пільнуйся, бо хутка можаш іх выдаць. 8-10.02. добра дагаворышся з раднёй і суседзямі. Купляй патрэбнае да хаты, прадавай жыллё, афармляй справы ў судзе і ўстановах. Калі прыхварэеш, хутка пры да доктара!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

**У нядзелю, 2 лютага, у Малешаўскім прыходзе адбыліся ўрачыстасці па ўшанаванні ахвяр з тамашніх прыхаджан, якія 74 гады таму загінулі з рук тагачаснага падполля ў Занях і Шпаках.**

* * *

„Гэта было ў суботу, якраз выпалі польскія Грамніцы. У нас у хаце была я з сястрою, мама, малодшы брат Ёзік, тата драмалі на зэдліку каля печкі. На вячоркі прыйшлі дзве мае сяброўкі, адна прала на калаўротку, другая вязала на прутках. Старшы брат Уладзік забег у хату і кажа, што паляць Шпакі. Відаць зарыва і дым. І выбег. Мама кажуць, што трэба павыносіць з хаты, бо прыйдуць і нас спаляць. Потым хтось грукнуў у дзверы, тата выйшлі і ў хату ўжо не вярнуліся. (...) Брат, я памятаю, паспеў захапіць з сабою школьны тарністар. Мы хадзілі ў школу ў Занях, вучыў нас найстарэйшы наш брат Янак, яго ў той час дома не было, бо старэйшыя хлопцы і мужчыны здаўна ўжо па хатах не начавалі. Хто дзе, у клуні, на вышках у хляве або і на грушы, абвязаўшыся вяроўкаю, каб не ўпасці, калі засне...” — расказала Яну Максімюку ў 1990 годзе адна з уцалелых тады ў Занях жанчын.



# Памінанне мучанікаў

■ Шэсце да магілы ў Занях

„Зані пасля пажару апусцелі, людзі хаваліся па іншых вёсках, доўга не вярталіся. Тата, як вярнуліся ў нядзелю ранкам, то ўбачылі, што мама згарэлі разам з хатаю, засталіся толькі самыя костачкі. Тата пазбіралі іх у палатно, збілі з дошак труну і хавалі разам з іншымі пабітымі, за вёскаю, у супольнай магіле. Праваслаўныя могілкі былі ў Браньску, але людзі баяліся туды ехаць і хаваць, каб там нас не пабілі. Разам у той магіле пахавалі 24 асобы...” — расказала тады Яну Максімюку іншая жанчына.

„Пасля вайны Зані былі мнагалюднай вёскай. На дзвесце сем'яў толькі чатыры былі каталіцкія. Аднак наваколле належала ўжо *шляхце*. Нас хацелі прагнаць і забраць сабе зямлю, — кажуць сведкі таго часу. Зані, адзіная праваслаўная вёска ў наваколлі, шмат злачынстваў зведала ў пасляваенныя гады. Банды дзень у дзень хадзілі. Рабавалі ўвесь дабытак ды пасылалі кацапаў у рай. Аж паўсотні людзей выехала тады ў Савецкі Саюз. Сёння Зані гэта прыстанішча старых людзей...” — пісала Ганна Кандрацюк у 1997 годзе.

Толькі адну асобу з пабітых 2 лютага 1946 года пахавалі на праваслаўных могілках у Браньску, а ўсіх апошніх у брацкай магіле за вёскай. Не было чым вазіць, не было каму займацца пахаваннямі. Пабітых пахавалі ў тым месцы, дзе былі пясчаныя ямы з-пад бульбы, бо ў іншым месцы з-за марозу немагчыма было капаць. Адгарнулі снег і так паклалі нябожчыкаў.

На месцы пахавання стаяў спачатку драўляны крыж, зараз на яго месцы металічны. У пачатку 1970-х гадоў паявітовыя бельскія ўлады паставілі на магіле мемарыяльную пліту з прозвішчамі пабітых жыхароў Занёў, вельмі рознага ўзросту — у 1946 годзе было ім ад чатырох да васьмідзесяці трох гадоў. Яшчэ пятнаццаць гадоў таму прозвішчы можна было лёгка прачытаць, цяпер яны моцна прыцярушаныя часам, слаба чытабельныя. Ды і ў вёсцы няма ўжо каму гэтым намагільнікам займацца, асталося толькі некалькі старэйшых праваслаўных асоб. У хаце, у якой я быў спісваў пятнаццаць гадоў таму ўспаміны, зараз зацягнутыя шэрасцю забыцця шыбы ў вокнах...

* * *

„Ехалі жалезнякамі ад Малешаў. У хату ўвайшло трох ці чатырох у мундзірах, прывялі суседа. Палажылі яго галава пры галаве з дзедкам і пастралялі.



■ Малебен на магіле ў Занях

А мне з бабуляй загадалі сесці на лаву і адзін пацэліўся ў нас, але іншы сказаў: *A na cóż ty tego bachora i starą będziesz bił?* І так мы з бабуляй уцалелі. Цётка стаяла каля швейнай машыны, адзін стрэліў у яе, але не папаў, толькі ногі ад машыны пабіў. І мы вырваліся з хаты: цётка ў свой бок, а я з бабуляй, у адным валёнку і шапцы, пад лес. Праседзелі да раніцы ў яме, з якой раней выбралі бульбу. Рана вярнуліся ў вёску, якая была спалена; былі забіты сем вяскоўцаў. Са Шпакоў у СССР выехала дзевятнаццаць сем'яў...” — расказаў мне пятнаццаць гадоў таму адзін з жыхароў Шпакоў.

Зараз у Шпаках помнік ахвярам таго нападу, аднак эпітафія на ім ужо нечытабельная.

* * *

Канцавізну нападалі шэсць разоў летам 1945 года. 2 лютага 1946 года прыйшлі сёмы раз. Да людзей не стралялі. Ад пажару ўцалела мо 5-6 жылых дамоў, і не ўсе гаспадарчыя збудаванні згарэлі. На другі дзень усе з вёскі паўцякалі да сваякоў, асталіся адно старэчы...

* * *

З пратакола Акруговай камісіі даследавання злачынстваў супраць Польскага народа з 2005 года: „Вечарам 1 лютага 1946 года адбылася нарада камандзіраў узводаў. Капітан Райс вызначыў камандзірам задачы знішчэння па адной з вёсак: Зані, Шпакі, Канцавізна. У названых вёсках большасць складала праваслаўнае насельніцтва. 2 лютага 1946 года ўзводы падаліся ў напрамку паасобных вёсак. Першы ўзвод пад камандаваннем „Вяруса” падаўся ў вёску Шпакі, другі ўзвод пад камандаваннем „Бітнага” падаўся ў Зані, а трэці пад камандаваннем „Лешка” — у Канцавізну. Узвод „Лешка” суправаджала камандаванне атрада. Адвячоркам у Шпакі ўвайшоў узвод пад камандаваннем „Вяруса”. Жаўнеры пачалі падпальваць будынкі і страляць да жыхароў. Ад куль, агню і раненняў памерла там 7 асоб... (...) Другі ўзвод пад камандаваннем „Бітнага” прыбыўшы ў Зані заняў пазіцыі. (...) На аснове дакументаў і паказанняў сведак прынята, што ў ходзе пацыфікацыі вёскі загінулі 24 асобы. Да таго было паранена 8 жыхароў... (...) 2 лютага 1946 года была заатакавана таксама вёска Канцавізна. (...) Сведкі падзей у Канцавізне падаюць, што ў той час у вёсцы пражывала каля 60 асоб праваслаўнага веравызнання. (...) Жыхары вёскі ўцяклі і ніхто не згінуў...”

* * *

2 лютага г.г. галоўнае набажэнства, літургія, адбылося ў браньскай царкве. Прапаведнік адзначыў, што зло ніколі не ідзе ў водпуск, ніколі не спіць. Адзін з занёўскіх выхадцаў мяркуе, што злачынства было вынікам палітычнага заказу. Гэта не толькі Сталін любіў гуляць людскімі лёсамі, у тым ліку і загадваючы масавыя перасяленні насельніцтва, у тым ліку і з Польшчы. Гэта было і па душы актывістаў і польскага палітычнага жыцця, і не толькі ўзброенага падполля, чыімі рукамі гэтая задума мела быць выканана.

Хаця тут кругом фармальна дамінуе хрысціянства, аднак шматлікія людзі розных грамадскіх слаёў не могуць аддзяліць евангельскіх кесарава ад Гасподняга. Гэта адно. А другое — магчымая тут свайго роду атавістычная традыцыя браньскага наваколля. Бо не вялікі сакрэт, што ў здзяйсненні падзей сямідзесяцічатырохгадовай даўнасці ўдзельнічалі суседзі ахвяр. Менавіта пра адну з найбольш знамянальных падзей у гісторыі Браньска згадвае фрагмент з браньскага календарыума: „Jesienią 1628 roku skazano na śmierć przez sąd grodzki w Brańsku i wykonano wyrok na 26 szlachcicach czyniących na Podlasiu liczne mordy i gwałty. Wydarzenia te odbiły się echem w całej Rzeczpospolitej i dały początek powiedzeniu *„A bodajby cię kat brański oprawił”*. З таго часу прайшло больш трохсот гадоў, а пэўная традыцыя асталася.

Пра Гасподняе і кесарава. У браньскай царкве бакі нефа аздабляюць іконы: з левага боку Багародзіцы, з правага Георгія Пераможцы. Быццам Гасподняе. Але пад імі прысвячэнні, пад правай „Въ память восшествія на Престолъ Государя Императора Александра III 1881 года”, пад левай „Въ память коронованія Государя Императора Александра III 1883 года”. Кесарава не ідзе ў водпуск, не спіць...

Пра гісторыю браньскай царквы ў інтэрнэце нямнога. Згаданы календарыум падае, што першая згадка пра праваслаўнага святара ў Браньску паходзіць з паловы XVI стагоддзя. У 1861 годзе ў Браньску ўзведзена была мураваная царква, якую раскідалі ў 1936 годзе. У 1897 годзе Браньск налічваў 4087 душ, у тым 2874 жыдоў, 1448 католікаў, 258 праваслаўных, 11 пратэстантаў і аднаго мусульманіна. У 1942 годзе царква зладжана была ў будынку былой школы. У 1997-2005 гадах узведзена была мураваная царква пад клічам Сімяона Стоўпніка, старую раскідалі ў 2011 годзе.

У браньскай царкве, на занёўскай магіле і каля шпакоўскага помніка не правілася паніхіда. Загінулыя ў лютым 1946 года жыхары Занёў і Шпакоў прылічаны да Падляшскіх і Холмскіх святых пакутнікаў. Зараз штогадова ў гадавіну трагічных падзей у Малешаўскім прыходзе будзе правіцца служба ў памяць ахвяр пасляваеннай трагедыі, свайго роду Пасха, уваскрэсенне ў праваслаўны пантэон...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960
06